20 чэрвеня 2020 | № 23 (682)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144




**ГКЧП па-амерыканску**
Стар. 9

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

**4 САМАІЗАЛЯЦЫЯ Ў ГЕАГРАФІЧНЫМ ЦЭНТРЫ ЕЎРОПЫ**

Немагчыма канкураваць на знешніх рынках, калі ўся энергія дзяржавы накіраваная на знішчэнне любых відаў канкурэнцыі ўнутры краіны

**5–8**



**ЭКАНАМІЧНАЯ БЕЛАРУСЬ**

**10 УСПАМІНЫ ПАРТЫЗАНА**

Пасля вайны мінула 75 гадоў. Вырасла новае пакаленне, якое зусім не ведае сутнасці вайны. І ўяўляе яе як гульню ў футбол, у хакей ці парад у Мінску

**11 – 12 ХТО ЗАМОВІЎ ВІЛЬГЕЛЬМА КУБЭ?**

22 верасня 1943 года быў забіты кіраўнік Генеральнага Камісарыята Беларусь Вільгельм Кубэ. Але як даволі шырокія колы беларускага грамадства паставіліся да той ахвяры?

# Улада альбо краіна?

## У імкненні захаваць уладу ці не любым коштам дзейсны кіраўнік дзяржавы можа, наадварот, страціць усё



Сяргей ПУЛЬША

Накат на былую вотчыну кандыдата ў прэзідэнты Бабарыкі — «Белгазпрамбанк» — адгукнецца самымі негатыўнымі наступствамі не толькі персанальна для кандыдата ў прэзідэнты Лукашэнкі, але і для краіны.

Справа не толькі ў тым, што «ачарніць» Бабарыку расследаваннем ДФР у дачыненні да банка не атрымаецца. Яшчэ на самым пачатку эканаміст Сяргей Чалы каментаваў: «Прадказваю: у выніку ператрусу ў банку знойдуць грошы». А што там яшчэ маглі знайсці? Таму інтэрнэт цяпер і кпіць з Лукашэнкі і ДФР. Таму рэйтынгу дзейнага кіраўніка гэта не паспрыяла ані на каліва.

А вось наступствы не прымусілі сябе чакаць. Уладальнікі «Белгазпрамбанка» — расійскія «Газпрам» і «Газпрамбанк». А з «Газпрамам» у нас — напруга, і не толькі таму, што мы ўсё хочам выцыганіць зніжку па кошце газу, нягледзячы на кантракт, які прадугледжвае кошт на год. Як высветлілася, у нас існуе запазычанасць па аплаце газу ў памеры $165,57 мільёна — паводле меркавання расійскай карпарацыі. Беларускі бок гэтую запазычанасць традыцыйна не прызнае.

Да накату на «дачку» «Газпраму» ў Беларусі па гэтай запазычанасці вяліся перамовы. Пасля таго, як улады вырашылі пашукаць у «Белгазпрамбанку» кампрамат на Бабарыку і ўвялі там знешняе кіраванне, расійскі «газавы гігант» заявіў: «З 1 ліпеня пастаўкі газу ў Беларусь будуць спыненыя да моманту пагашэння ў поўным аб'ёме запазычанасці».

Канешне, цяпер — лета, і спажыванне газу для побытавых патрэбаў у нас не такое, як зімой. Але газ — гэта не толькі цяпло ў кватэрах. Адзін «Гродна-Азот» марнуе 2 мільярды кубаметраў гэтага паліва штогод, 10% ад усяго імпартаванага намі газу. А ёсць яшчэ шматпакутная цэментная галіна і іншыя прадпрыемствы, якім без паліва — ніяк.

Ціск з гэтага боку на Лукашэнку будзе вельмі балючы. Адна справа — спрабаваць знішчыць канкурэнта па выбарах, а іншая — адправіць у «вымушаны адпачынак» пару дзясяткаў буйных прадпрыемстваў.

Таксама варта нагадаць, што спробу дыскрэдытацыі Бабарыкі кіраўнік дзяржавы пачаў з кампаніі «Прыват Лізінг». Маўляў, запытайцеся ў аднаго з кандыдатаў, што за яна. У выніку ў «Прыват Лізінгу» таксама прайшлі ператрусы. І высветлілася…

Калі Лукашэнка сцвярджаў, што у нас — не эпідэмія, а «каронапсіхоз», Мінздароўя адкрыла дабрачынны рахунак, каб набыць сродкі бяспекі для дактароў. У гэты дабрачынны фонд паступіла крыху больш за 4 мільёны рублёў. Амаль чвэрць з іх — 1 мільён — ад кампаніі… Правільна, «Прыват Лізінг».

Больш за тое: «Прыват Лізінг» ад 2019 года з'яўляецца афіцыйным партнёрам Беларускай федэрацыі шахмат. Гэтая федэрацыя арганізуе турніры «Адкрытыя шахматы» і «Белая ладдзя» — сумесна з Мінадукацыі, Мінспорту і прэзідэнцкім спартовым клубам. Кіраўніком прэзідэнцкага спартовага клуба з'яўляецца... Дзмітрый Лукашэнка.

Калі Лукашэнка ведаў, што ў «Прыват Лізінгу» сядзяць «злачынцы», чаму не патлумачыў міністру аховы здароўя, з якім сустракаўся ці не штодня, што «злачынныя» грошы браць нельга? Чаму не правёў «прафілактычную гутарку» з чыноўнікамі ад спорту, ад адукацыі, са сваім сынам, урэшце? Ці «Прыват Лізінг» заўсёды быў белы і пухнаты, а стаў «злачыннай арганізацыяй» толькі з-за сувязі з Бабарыкам? Тады — гэта ўжо чыстая палітыка (у чым мала хто сумняваецца).



Фота www.iz.ru

> **Калі дзеля захавання ўлады ставяцца пад пагрозу жыцці людзей — ці патрэбны нам такі «барацьбіт»?**

У выніку «накату» на «Белгазпрамбанк» істотна абмежавала (амаль спыніла) сваю дзейнасць краўдфандынгавая пляцоўка MolaMola. Пляцоўка, на якой беларусы збіралі грошы ў тым ліку на дапамогу медыкам Беларусі — у межах кампаніі «ByCovid19 — дапамога лекарам Беларусі». Гэта азначае, што тысячы дактароў і сотні лякарняў застануцца без неабходных сродкаў абароны. А эпідэмія нікуды не падзелася — штодня ў Беларусі толькі па афіцыйных дадзеных рэгіструецца каля 700 хворых.

Такім чынам, у імкненні раструшчыць палітычнага праціўніка, дзейны кіраўнік дзяржавы зноў паставіў у небяспеку лекараў — самую гераічную і адначасова ўразлівую ў наш час катэгорыю насельніцтва.

Калі з-за палітычнай барацьбы і дзеля захавання ўлады ставіцца пад пагрозу жыцці людзей — ці патрэбны нам такі «барацьбіт»? Урэшце, імкненне захаваць уладу цаной жыццяў іншых — не новае. Але ад гэтага не менш агіднае.

19 чэрвеня, у апошні дзень збору подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у прэзідэнты, Мінск наведае міністр замежных спраў Расіі Сяргей Лаўроў. Афіцыйна — каб паразмаўляць пра пагадненне аб узаемным прызнанні візаў. Неафіцыйна аналітыкі ад гэтага візіту чакаюць чаго заўгодна: ад «парадаў» Лукашэнку «вярнуць нарабаванае» да ціску на падпісанне так званай «31-й дарожнай карты», якая прадугледжвае ці не інкарпарацыю Беларусі ў Расію. А ўзамен Расія, нібыта, падтрымае Лукашэнку ў паходзе на сёмы прэзідэнцкі тэрмін.

Калі ўсё ж верагодны апошні сцэнар, то ў Лукашэнкі дылема. Альбо ён будзе «кіраўніком краіны без краіны» — калі пагодзіцца на «31-ю дарожную карту». Альбо ён не будзе кіраўніком краіны, што цалкам магчыма. Мы ж памятаем: у 1996-м толькі «расійскі дэсант», што складаўся з кіраўнікоў суседняй краіны, дапамог яму пазбегнуць імпічменту.

На што яшчэ пойдзе беларускі «правадыр» дзеля захавання ўлады?

# На што маглі забыцца Бабарыка і Цапкала

Сяргей НАВУМЧЫК,
Радыё Свабода

**Людзі, якія цяпер выходзяць з мінскіх турмаў, распавядаюць пра катаванні і здзекі з «палітычных».**

За кратамі, нагадаю, застаюцца Вольга Нікалайчык, Сяргей Ціханоўскі, Мікола Статкевіч, Павел Севярынец, дзясяткі актывістаў.

Беларускія праваабаронцы ўжо звярнуліся ў ААН і заявілі, што «ўмовы адбывання пакарання… можна кваліфікаваць як жорсткае, бесчалавечнае і прыніжальнае для годнасці».

Алег Трусаў, дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання, прапанаваў кандыдатам у прэзідэнты даць сумесную прэсавую канферэнцыю, прысвечаную фактам катаванняў палітвязняў. Такая сумесная акцыя, бясспрэчна, надала б падвойную ўвагу да тэмы не толькі ў іх прыхільнікаў, але і за мяжой.

Я не збіраюся даваць парады кандыдатам, але хачу паразважаць над адной асаблівасцю.

Чалавеку звычайна здаецца — горшае, што здарылася з іншымі, яго абміне. Асабліва калі гэты чалавек працяглы час мае высокі статус. Гэтак было ва ўсе часы — раней з каралямі, магнатамі, цяпер — міністрамі ці прэзідэнтамі карпарацый.

Але — здараецца, што не абмінае.

Сталінскім наркамам і маршалам, перад якімі сяржанты НКУС стаялі па стойцы «Смірна!», калі тыя былі на Маўзалеі, — гэтыя ж сяржанты выбівалі зубы і ламалі пальцы, калі тыя — канешне, нечакана для іх саміх — апыналіся на Лубянцы.

Валер Цапкала мае статус надзвычайнага і паўнамоцнага амбасадара. Але ў сучаснай Беларусі гэта не азначае нічога. Надзвычайны і паўнамоцны амбасадар, дэпутат Вярхоўнага Савета Пётра Садоўскі быў збіты разам з іншымі дэпутатамі Апазіцыі БНФ проста ў зале парламенту, хаця ў яго быў і дэпутацкі імунітэт. Надзвычайны і паўнамоцны амбасадар Міхаіл Марыніч быў кінуты за краты. У турме КДБ падвяргаўся здзекам надзвычайны і паўнамоцны амбасадар Андрэй Саннікаў.

Віктар Бабарыка ўзначальваў буйны банк, мае аўтарытэт у фінансавых колах. Аўтарытэт у гэтых колах мела і Тамара Віннікава, а статус яшчэ вышэйшы — узначальвала «Беларусбанк», а потым была старшынёй праўлення Нацыянальнага банку. Я не буду расказваць, якім здзекам падвяргалася Віннікава ў турме КДБ «Амерыканка». Не, яе не білі, нават, здаецца, пальцам не краналі, але, зразумела, арсенал здзекаў з жанчыны ў зняволенні бязмежны.

Хацеў сказаць, што да Бабарыкі ці да Цапкалы, калі б яны (не дай Бог, канешне) патрапілі за краты, ставіліся б гэтак жа, як і да нікому не вядомых актывістаў з Асіповічаў ці Барысава, але тое было б няпраўдай.

Ставіліся б значна горш — бо найбольш цяжка перажываюцца менавіта псіхалагічныя, сітуацыйныя прыніжэнні.

Адмова падчас допыту вывесці ў прыбіральню аднолькава непрыемная і для трактарыста, і для былога міністра ці прэзідэнта фінансавай карпарацыі. Але, у сілу некаторых прычынаў, апошнія будуць псіхалагічна перажываць яе больш пакутліва. Магчыма, кандыдаты ў прэзідэнты пра гэта не ведаюць ці забыліся.

Але тыя, хто кіруе рэпрэсіўнай машынай, пра гэта памятаюць.

***P.S.*** *На час падпісання газеты да друку стала вядома, што Віктар Бабарыка і яго сын Эдуард знаходзяцца ў СІЗА КДБ, адвакаты да іх трапіць не могуць.*

# «У школе, акрамя ведаў, ёсць месца толькі любові да сваёй зямлі»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Гісторыя са звальненнем настаўніцы і літаратуразнаўцы Ганны Севярынец са Смалявіцкай раённай гімназіі не магла застацца незаўважанай. Хоць сама гераіня не хацела рабіць яе публічнай.**

Настаўнік года Смалявіцкага раёна–2019, даследчыца творчасці рэпрэсаваных беларускіх літаратараў, пісьменніца Ганна Севярынец адпрацавала ў Смалявіцкай раённай гімназіі шэсць гадоў. Яна ўмее і любіць працаваць з дзецьмі — і яны адказваюць ёй узаемнасцю. Як былая яе студэнтка, магу без сумневу сказаць, што Ганна Канстанцінаўна — выкладчык ад Бога. Яна ставіцца да вучняў як да роўных і заўжды шчырая з імі — за гэта яны яе і любяць.

Але нехта ўсё ж не змог даравацьнастаўніцы шчырасць, і калі яе крытыку беларускай сістэмы адукацыі яшчэ неяк трывалі, то напісаны ёй верш, прысвечаны афіцыйнаму кіраўніку краіны і яго сыну Колю, відаць, стаў апошняй кропляй.

«Новы Час» пагутарыў з Ганнай Севярынец пра прычыны і наступствы таго, што адбылося.

***— Наколькі нечаканай стала для вас гэтая сітуацыя? Вы калі-небудзь думалі пра тое, што з вамі могуць не працягнуць кантракт?***

— З аднаго боку, я разумела, канешне ж, што паводжу сябе рызыкоўна, але, ёлкі-палкі, ну жыццё ж адно, і палова ягонаая пражытая, ну нельга ж жыць і баяцца! Тым больш, што неяк было ўсё ўраўнаважана: я прыношу гімназіі перамогі і дыпломы, яны мне не замінаюць выказвацца. Было, што і больш рэзка, чым з гэтым вершам. Дык я здзівілася, канешне. Але падпісала адразу.

***— Як думаеце, гэта было асабістае рашэнне дырэктара?***

— А я спытала ў яго: ён сам ці яму патэлефанавалі. Сказаў, што гэта выключна ягонае рашэнне. Я магу паверыць. Мы і раней некалькі разоў мелі гутарку наконт таго, ці мае права настаўнік не падтрымліваць кіраўніка дзяржавы. Ну такая ў чалавека цвёрдая пазіцыя. У мяне такая самая цвёрдая — але супрацьлеглая.

***— А што вы ўвогуле думаеце наконт ідэалогіі ў школе? Ці месца ёй там?***

— Я думаю, што ў школе, акрамя ведаў і навыкаў, ёсць месца толькі аднаму: любові да сваёй зямлі, яе культуры, гісторыі і будучыні. Калі гэта ідэалогія, то на такую я згодная.

***— Пытанне, напэўна, з галіны фантастычнай: калі б раптам дырэктар змяніў сваё рашэнне і прапанаваў вярнуцца — вы б прынялі прапанову?***

— Я думала пра гэта, і я б вярнулася — мне трэба хаця б выпусціць 11 клас. Уявіце сабе, які капец — год да тэставання, яны ні на курсы не ездзілі, ні рэпетытараў не бралі, спадзеючыся на мяне, і што цяпер? Ды што там рэпетытар, я ж кожнага з іх ведаю «па костачках», з шостага класа вяду, хто лепей за мяне іх навучыць? Але гэта толькі — калі вяртацца пераможцай на маіх умовах. На чужых — не.

***— Вы ўжо некалі праходзілі праз такое, калі вас звальнялі па ідэалагічных прычынах?***

— Мне прыпынялі двойчы абарону дысертацыі. Адпаведна дзвюм Паўлавым «хіміям» (Ганна — сястра апазіцыйнага палітыка Паўла Севярынца. — НЧ.). Чамусьці два разы дата экспертнага савета супадала з арыштам — ну, і ўсё. А звальняць пакуль не звальнялі.

***— Хай гэта будзе першы і апошні раз. Вам у каментарах прагназуюць у будучыні пасаду міністра адукацыі. Як ставіцеся да гэтага?***

— Калі б мне гэта прапанаваў той кандыдат, за якога я цяпер моцна перажываю і якога хацела б падтрымаць на магчымых свабодных выбарах, — пайшла б.

***— Што вам дае падставы спадзявацца на магчымасць свабодных выбараў у Беларусі?***

— Што дае падставы? Сляпая ірацыянальная вера ў перамены, што ж яшчэ.

***— Падсумоўваючы, што для вас значыць сітуацыя, якая склалася, і салідарнасць, што ўзнікла ў адказ на ваша звальненне?***

— Сёння цэлы дзень тэлефануюць і калегі, і выпускнікі, падтрымліваюць. Ведаю, што хадзілі да дырэктара бараніць мяне. Ведаю, што ў шоку бацькі. Я не адчуваю сябе зацкаванай ахвярай. Усё добра. Пасмяялася, калі мне патэлефанавалі дзеці, якія скончылі гімназію два гады таму, і сур'ёзна спыталіся, каму яны могуць паскардзіцца.

Цяпер маю ўжо прапановы супрацы з самых розных бакоў, нават нечаканых. Да верасня вызначуся. І веру — зноў да ірацыянальнага, — што да верасня наогул можа змяніцца ўсё.

# Шэдэўры ў закладніках

Таццяна ГУСЕВА

**Пасля серыі ператрусаў у банку, камерцыйных структурах і ў сяброў экс-банкіра Віктара Бабарыкі надышла чарга карпаратыўнай калекцыі банка. Шэдэўры мастакоў Парыжскай школы з галерэі «Арт-Беларусь» былі канфіскаваныя ў рамках крымінальнай справы.**

Як паведаміў у праграме «Галоўны эфір» на тэлеканале «Беларусь 1» вядучы Іван Эйсмант, паўтары сотні карцін агульным коштам каля 20 мільёнаў долараў далучаныя да справы «Белгазпроманка». «Ёсць інфармацыя, што іх рыхтавалі да тэрміновага вывазу за мяжу», — заявіў Эйсмант.

Паводле яго словаў, «сапраўдны кошт гэтых актываў можа быць значна вышэйшым, можна толькі ўявіць, за колькі яны былі прададзеныя на аўкцыёнах». У сюжэце буйным планам паказалі «Еву» Хаіма Суціна — сапраўдны скарб калекцыі «Белгазпромбанка». На аўкцыёне яе набылі за 863 тысячы фунтаў стэрлінгаў (на сённяшні дзень рынкавы кошт быў бы каля 2 мільёнаў еўра ў эквіваленце).

«Ева» — самая дарагая праца калекцыі, — распавядаў у інтэрв'ю «Салідарнасці» некалькі месяцаў таму куратар карпаратыўнай калекцыі «Белгазпромбанка», кандыдат мастацтвазнаўства Аляксандр Зіменка. — Нам пашанцавала, што яе захацелі прадаць. Вялікім поспехам было знайсці карціну Суціна: мастак шмат сваіх работ знішчыў, а ўладальнік дому, дзе была яго майстэрня, спаліў амаль 200 работ. Спадчына майстра разышлася па калекцыях».

Ці меў права «Белгазпрамбанк» вывозіць калекцыю за мяжу? Дэ-юрэ працы з калекцыі банка з'яўляюцца прыватнай уласнасцю. Адпаведна, банк меў права распараджацца імі паводле свайго меркаванні. Але 35 работ калекцыі маюць статус гісторыка-культурнай каштоўнасці, іх можна прадаць у Беларусі, але нельга — за мяжу. У Дзяржаўным спісе гісторыка-культурных каштоўнасцяў унесены «Ева» Суціна, некалькі работ Шагала, Пінхуса і іншых аўтараў. Банк планаваў і астатнія працы ўключыць у гэты пералік. «Нашая мэта — каб гэтыя працы назаўжды засталіся ў Беларусі», — казаў Зіменка.

Сярод скарбаў калекцыі — «Малая падарожная кніжка» Францыска Скарыны, выдадзеная каля 1522 года ў Вільні. Больш за 10 гадоў прыватны калекцыянер з Беларусі адпрэчваў прапановы прадаць яе ў Расію, а ў 2016-м пагадзіўся ўкласці ўгоду з «Белгазпрамбанкам» са словамі: «Хачу, каб гэтая кніга засталася ў Беларусі». Ён прадаў яе танней, чым прапаноўвалі расійскія пасярэднікі.

Навошта ўсё гэта трэба было банку? «Праз 20 гадоў незалежнасці ў Беларусі не было ніводнай маляўнічай працы Шагала. З'явілася ідэя закрыць гэтыя белыя плямы, паказаць людзям, якія таленты дала беларуская зямля, вярнуўшы іх працы на радзіму», — успамінаў Зіменка.

Збіраючы скарбы ў карпаратыўную калекцыю, якая стала праектам нацыянальнага маштабу, банк не манапалізаваў іх. Любы мог прыйсці ў галерэю «Арт-Беларусь» і ўбачыць творы знакамітых землякоў. Цяпер калекцыя, прызнаная самым буйным зборам работ экспрэсіяністаў Парыжскай школы ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе, аказалася ў руках сілавікоў.

У сацсетках карыстальнікі назвалі тое, што здарылася, «рабаваннем банка ў жывым эфіры БТ». Некаторыя задаюцца пытаннямі, якое дачыненне маюць карціны да крымінальнай справы. Людзі перажываюць, ці не пацерпяць творы мастацтва падчас захоўвання ў сілавых структурах.

Па сутнасці, шэдэўры аказаліся ў закладніках. Ведаючы трапяткое стаўленне Бабарыкі да калекцыі, створанай па яго ініцыятыве і з яго ўдзелам, можна толькі ўявіць, якім ударам для яго стала канфіскацыя карцін.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# На Мальдзівы!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**На месцы кіраўніка Беларусі я б ціхенька прамовіў, што абяцаў народу сысці, калі ён папросіць, і заявіў бы, што выконваю абяцанне. А потым з'ехаў бы некуды на Мальдзівы, а з «усім гэтым вэрхалам» хай іншыя разбіраюцца. Бо кіраўнік краіны, што прагне сёмага тэрміну, ператварыўся ў суцэльнае ліха заплечнае.**


Фота www.vk.com

Возьмем хаця б па дробязях. У красавіку Лукашэнка з'ездзіў на шклозавод «Нёман» у Бярозаўцы, дзе станоўча ацаніў старанні мясцовых кіраўнікоў. Але калі ён з'ехаў, работнікаў «Нёмана» чакаў непрыемны сюрпрыз. «Праз некалькі дзён нам паведамілі: усіх пераводзяць на чатырохгадзінны працоўны дзень. Спачатку тлумачылі гэтае рашэнне пандэміяй каронавіруса, затым сталі казаць, што папросту няма заказаў. Натуральна, гэта моцна ўдарыла па заробках. Цяпер яны складаюць ад 230 да 370 рублёў. Людзі ад адчаю жартуюць: усе грошы сышлі на тое, каб накрыць "паляну" для Лукашэнкі. Тэлебачанне паказала прыгожую карцінку, а потым на нас плюнулі», — распавялі работнікі шклозавода.

Чатырохгадзінны працоўны дзень будзе да сярэдзіны ліпеня, а потым усіх (!) работнікаў адправяць у адпачынак. «Але пры гэтым кажуць: невядома, калі вы з гэтага адпачынку выйдзеце… Людзі звальняюцца і сыходзяць у калгасы», — распавялі «Беларускаму партызану» работнікі прадпрыемства.

Гэта як трэба было давесці завод, каб работнікі сыходзілі з яго ў калгасы?

Глыбока стратны «Нёман» Лукашэнка вырашыў падняць пабудовай на прадпрыемстве яшчэ аднаго цэху па выпуску шклаваты. Пры гэтым той, што ёсць, пабудаваны за 60 мільёнаў еўра, стаіць недагружаны… «Завод і так у даўгах, а нам кажуць — залазіць у даўгі і далей, будаваць нікому не патрэбны цэх. Дык адкуль у нас будзе нармальны заробак?» — кажуць працоўныя.

І так — амаль ва ўсім. Напрыклад, з'ездзіў кіраўнік краіны на «Гродна-Азот». І там сказаў: «Галоўнае, каб мы краіну не страцілі. Каб мы не аддалі краіну разгільдзяям і тым, якія абяцаюць з верталёта грошы раскідваць: інвестары прыйдуць і нам чагосьці прынясуць. Інвестары прыйдуць з-за мяжы, але скажуць: падаткі плаціць не будзем, дайце танную сыравіну, і зарплата ў людзей будзе 300 долараў. Гэта значыць, выцягнуць усё з людзей, з краіны, падаткі не заплацілі, паехалі і прадалі. Нам такія інвестыцыі не патрэбныя — мы самі пабудуем гэты завод».

Па-першае, у некаторых сферах заробкі ў 300 долараў цяпер — за шчасце. Па-другое, у Лукашэнкі было 26 гадоў, каб «пабудаваць гэты завод». Па-трэцяе, мы былі блізкія да «страты краіны» ўзімку — менавіта тады, калі Масква выкручвала нам рукі, прымушаючы да «паглыбленай інтэграцыі». А ці не здарылася гэта дзякуючы Саюзнай дамове, якую падпісаў менавіта Лукашэнка?

Апроч таго, гарант завёў старую казку: «Мы будзем імкнуцца да таго, каб усё ж такі ў два разы ў нас у будучай пяцігодцы вырасла зарплата. Асабліва ў настаўнікаў, лекараў. Не справа, што ў нас лекар, настаўнік, культурны работнік маюць такую нізкую зарплату». Казцы «па 500 у эквіваленце» ўжо больш за 10 гадоў. Два прэзідэнцкіх тэрміны на гэта не хапіла, чаму мы павінны верыць, што атрымаецца цяпер?

Сапраўды — не атрымаецца. Наадварот, нас чакае крызіс з дэвальвацыяй, — калі, канешне, мы не зменім эканамічна-палітычныя падыходы. Напярэдадні выбараў хоць пакрысе, хоць па капейчыне, але ўлады імкнуцца падкупіць электарат і настаўнікаў, што зазвычай працуюць у выбарчых камісіях. Новы беларускі ўрад, напрыклад, распарадзіўся зрабіць аднаразовую выплату на аздараўленне пры сыходзе ў працоўны адпачынак педагагічным работнікам бюджэтных арганізацый і іншых арганізацый, якія атрымліваюць субсідыі, работнікі якіх прыраўняныя па аплаце працы да работнікаў бюджэтных арганізацый. Выплата небагатая — з разліку 0,5 акладу з улікам педагагічнай нагрузкі. Аднак ёсць.

Паводле Белстату, рэальныя наяўныя грашовыя даходы насельніцтва Рэспублікі Беларусь у студзені-красавіку 2020 года выраслі на 5,7% да аналагічнага ўзроўню мінулага года. І, паводле тых жа звестак, ВУП Беларусі ў студзені-траўні знізіўся на 1,8% да аналагічнага ўзроўню мінулага года.

Гэта азначае, што эканоміка напампоўваецца пустымі, незаробленымі грашыма. А гэта немінуча прыводзіць да дэвальвацыі і фінансавага крызісу — тое мы праходзілі неаднаразова. І працягваем таптацца па тых жа граблях. Праўда, цяпер проста грошай няма на істотны рост заробкаў — і толькі гэта нас ратуе ад паўтарэння сцэнару 2010–2011 гадоў. Тады напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2010-га «купілі электарат», а ўвесну 2011-га нас накрыла валютным крызісам.

Памятаеце інфляцыю 115% і дэвальвацыю ў 186%? А нехта яшчэ памятае сайт па нелегальным абмене валюты prokopovi.ch?

Пры гэтым эканамісты і эксперты не перастаюць папярэджваць — далей будзе горш, таму што горш будзе ўсім. Старшы навуковы супрацоўнік Цэнтра эканамічных даследаванняў BEROC Дзмітрый Крук падчас анлайн-семінара, прысвечанага стану беларускай эканомікі, зазначыў: калі ў пачатку года ў Беларусі былі ў асноўным аптымістычныя эканамічныя прагнозы, то сёння яны, як мінімум, не такія аптымістычныя, але нават досыць драматычныя. Таму што за 5 месяцаў гэтага года фактары рызыкі для глабальнай эканомікі зведалі істотныя змены, і бліжэйшым часам эканомікі многіх краін могуць сутыкнуцца з новымі праблемамі. А паколькі нашая эканоміка экспартаарыентаваная — з праблемамі сутыкнёмся і мы.

Ну і, канешне, маё любімае. У часе мінулай прэзідэнцкай кампаніі Аляксандр Рыгоравіч абяцаў нам новае пакаленне мабільнай сувязі 5G да 2020-га. Ужо лета згаданага года, дык дзе абяцанае 5G?

На тыдні паведамілі, што рабочая група пры Мінсувязі разгледзела і падтрымала прапанаваныя Міністэрствам падыходы да ўкаранення ў Беларусі мабільнай сувязі пятага пакалення. Яе задачай з'яўляецца выпрацоўка стратэгіі стварэння ў краіне сетак 5G.

Разумееце? Згодна з абяцаннем Лукашэнкі, 5G ужо павінна быць у нас у кішэні, а мы яшчэ нават стратэгію стварэння гэтай сеткі не выпрацавалі.

Дык можа, сапраўды, — на Мальдзівы і не перашкаджаць?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Павел Севярынец



**Сустаршыня БХД і адзін з актыўных арганізатараў «антыінтэграцыйных пратэстаў» атрымаў яшчэ 15 сутак адміністрацыйнага арышту і вымушаны быў ускрыць сабе вены.**

«Патэлефанаваў чалавек, які сядзеў з Паўлам, і сказаў, што Паўлу далі яшчэ два пратаколы, забралі ўсе рэчы, у тым ліку зубную шчотку, цёплае адзенне, сродкі гігіены, а таксама ўжо два разы адпраўлялі ў КПЗ, дзе вельмі холадна», — паведаміла ў Facebook жонка палітыка Вольга.

Паводле яе слоў, перадачы немагчыма перадаць, бо іх на Акрэсціна перасталі прымаць. Пры гэтым актывісты, якія выйшлі з ізалятара, скардзяцца на невыносныя ўмовы зняволення, здзекі і шантаж. На дзень у іх адбіраюць матрацы, забараняюць ляжаць, штодня выліваюць на падлогу вядро з хлоркай, хлоркай жа абліваюць асабістыя рэчы. На скаргі затрыманых работнікі ЦІП адказваюць: «Скажыце "дзякуй" палітычным, гэта з-за іх».

На чарговым судзе над Севярынцам, які праходзіў праз Skype, высветлілася, што на знак пратэсту супраць невыносных умоваў утрымання палітык быў вымушаны ўскрыць сабе вены.

Праваабаронцы ўжо звярнуліся да начальніка ГУУС Мінгарвыканкама па факце жорсткага, бесчалавечнага, прыніжаючага годнасць абыходжання з арыштаванымі ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў.

## Віктар Бабарыка



**Прэтэндэнт у прэзідэнты і яго сын Эдуард, які кіруе ініцыятыўнай групай, былі затрыманыя ДФР па «справе Белгазпрамбанка». Тым часам у падтрымку Віктара Бабарыкі сабрана рэкордная колькасць подпісаў — больш за 425 тысяч.**

Раніцай у чацвер, 18 чэрвеня, Бабарыка з сынам паехалі здаваць у тэрытарыяльныя камісіі чарговую частку подпісаў. Па дарозе іх затрымалі супрацоўнікі ДФР і адвезлі для «дачы паказанняў». Прычым, паказанні яны давалі без адвакатаў: абаронцаў да іх не дапусцілі з-за таго, што ў будынку КДК праходзяць «вучэнні». Тым часам, як стала вядома ўжо пасля поўдня, у доме Віктара Бабарыкі прайшоў ператрус.

Афіцыйнай інфармацыі ад КДК аб працэсуальным статусе бацькі і сына Бабарыкаў на момант падрыхтоўкі да друку не было.

У штабе кандыдата заявілі, што рыхтаваліся да арышту, а Віктар Бабарыка казаў, што ў яго ёсць план на выпадак затрымання.

Згодна з заканадаўствам, нават у выпадку затрымання чалавек можа быць кандыдатам, падставай для адмовы ў рэгістрацыі кандыдатам у прэзідэнты можа быць толькі непагашаная судзімасць. Зрэшты, ёсць важны нюанс: прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта павінен да 4 ліпеня падаць пакет дакументаў у ЦВК, падпісаны асабіста.

## Алесь Марачкін



**Знакаміты беларускі мастак вярнуўся з самага доўгага і незвычайнага пленэру ў жыцці.**

Сам Алесь Марачкін, майстар кавальскай справы Алесь Фалей, скульптарка Наталля Піневіч, рэстаўратарка Тацццяна Патворава прыехалі ў Чарнагорыю на пачатку сакавіка па запрашэнні мецэната, заснавальніка арт-рэзідэнцыі «Дом мастака» Раткі Паповіча, які рэгулярна ладзіць пленэры для знаных мастакоў. У Мінск яны павінны былі вярнуцца ў пачатку красавіка. Але каронавірус закрыў межы, давялося маніторыць эвакуацыйныя рэйсы расійскіх авіякампаній. Тым часам на радзіме пачаўся рэзкі рост колькасці інфікаваных, у выніку ў Беларусь вярнулася толькі Тацццяна Патворава. Астатнія засталіся да аднаўлення паветраных зносінаў.

«Умовы для творчасці там створаныя ідэальныя. Кожны з нас меў свой пакой, а мне Ратка наогул выдзеліў палову сваёй галерэі на трэцім паверсе, — расказвае Марачкін. — Фактычна, паўнавартасная майстэрня: з вокнамі, добра асветленая. На знак удзячнасці я пакінуў гаспадару 33 працы. Ну, і яшчэ 21 прывёз дадому, спадзяюся, некалі ўдасца зрабіць выставу "Пад небам Чарнагорыі"», — зазначыў мастак.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Самаізаляцыя ў геаграфічным цэнтры Еўропы

**Вясна 2020 года папоўніла наш слоўнікавы запас словам «самаізаляцыя», пад якім разумеецца сукупнасць абмежавальных мераў, што ўводзяцца ўрадам для барацьбы з распаўсюджваннем небяспечных захворванняў.**




Слова гэта не новае, але ў гутарковай мове сустракалася раней нячаста. Патрэбы ў ім не было. У сучасных жа пікейных камізэлек, схільных паразважаць пра вялікую палітыку, ва ўжытку было слова «ізаляцыянізм».

Са школьных гадоў у памяці застаўся фразеалагізм «адгарадзіцца кітайскай сцяной». Пабудавана тая сцяна была, калі хто забыў, з мэтай абароны ад качэўнікаў, але зрабіла свой унёсак у тэхналагічнае адставанне калісьці аднoй з самых развітых краін свету.

Сучасны прыклад самаізаляцыі — Паўночная Карэя. Яе бацька-заснавальнік Кім Ір Сен вынайшаў уласную ідэалогію чучхэ, у цэнтры якой — «чалавек і рэвалюцыйныя ідэі, накіраваныя на ажыццяўленне самастойнасці народных масаў».

Не ведаю, як там у народных паўночнакарэйскіх масаў з самастойнасцю, але з забеспячэннем элементарным шырспажывам не склалася. Мяркую з чужых слоў, бо ўбачыць гэта шчасце на ўласныя вочы не давялося.

### Качэўнікі перамагаюць аселых

Сёння знойдзецца няшмат ахвочых ісці шляхам, які завяшчаў Кім Ір Сен, тым больш у Беларусі. Эканоміка рэспублікі-партызанкі экспартна арыентаваная, што пацвярджаецца доляй экспарту ў ВУП (70,46% па выніках 2018 года). У ЗША, між іншым, гэты паказчык за пазамінулы год склаў 12,22%. Ведай нашых!

Аднак радавацца тут асабліва няма чаму. Вялікай эканоміцы працэс быць самадастатковай. Таму ўсе размовы на тэму імпартазамяшчэння — гэта размовы на карысць бедных. Дасягненне сур'ёзных поспехаў на гэтым напрамку магчыма толькі за кошт увядзення дзяржаўнай манаполіі на знешні гандаль і выбудоўвання «жалезнай заслоны» па ўсім знешнім перыметры.

Падабацца гэта камусьці ці не, аднак глабалізацыя даўно стала фактам. Яна адбываецца стыхійна, самаадвольна і бязладна. Не мае сэнсу шукаць людзей, якія сядзяць за пультамі кіравання глабалізацыяй, займаюцца планаваннем і прымаюць на сябе адказнасць за яе канчатковыя вынікі. Аматарам канспіралогіі тут няма чым пажывіцца.

«У глабалізаваным свеце, — тлумачыў брытанскі сацыёлаг Зігмунд Бауман, — парадак становіцца індыкатарам бездапаможнасці і падпарадкаванасці. < … > Здаецца, што вялікая гістарычная эпоха, якая пачалася з трыумфу аселых плямёнаў над качавымі, цяпер падыходзіць да канца. Глабалізацыя можа быць вызначана рознымі спосабамі, але «рэванш качэўнікаў» — адзін з самых удалых, калі не найлепшы».

Як тут ні прыгадаць ярлык «донара еўрапейскай стабільнасці», што так старанна наляпліваецца прапагандай на рэспубліку-партызанку. Аднак да моцнай дзяржавы, чыя сіла палягае ў архаічнай уладнай вертыкалі, ён прыляпляцца не жадае. Таму варта толькі выстраіцца чэргам у некалькі сотняў метраў з ахвочых паставіць подпісы за не ўхваленых зверху кандыдатаў, як тут жа пачынаюцца крыкі: «Ратуйце! Майданутыя разгойдваюць лодку! Недапушчальна!»

Сілу беларускай дзяржаўнасці яе архітэктар бачыць у здольнасці падтрымліваць стабільнасць — гэта значыць, нязменнасць. У гэтай сіле ўся наша дынамічнае стагоддзе і палягае яе (дзяржаўнасці) галоўная слабасць. Качэўнікі-рэваншысты насядаюць з усіх бакоў.

Узор поспеху качэўнікаў над аселымі сялянамі мы сёння назіраем на прыкладзе «Газпрама», нацыянальнага здабытку «нашай Расіі». Колькі сотняў мільярдаў долараў гэты газавы гігант убухаў за апошнія гады ў будаўніцтва газаправодаў! Аднак заяўленая мэта стаць манапалістам дасягнутая не была. Танкеры са звадкаваным газам перамаглі закапаныя ў зямлю і марское дно трубы. Сёння кошт за 1 тысячу кубаметраў газу на спотавых рынках Еўропы апускаецца да 40 долараў, у той час як Беларусь атрымлівае яго па трубе за 127 «зялёных». Танней было б пампаваць газ з Польшчы. Але сваю частку трубы мы прадалі. Так што бачыць вока, ды зуб не мае.

### Жаночы ліслівы голас

На сайце Міністэрства эканомікі чытаю: «Імпартазамяшчэнне — дзяржаўная палітыка, накіраваная на рацыяналізацыю імпарту тавараў і паслуг з дапамогай стымулявання айчынных вытворцаў аналагічных прадуктаў, стварэнне на тэрыторыі краіны новых прадпрыемстваў, у тым ліку і з удзелам замежнага капіталу, для арганізацыі выпуску прадукцыі, якая раней імпартавалася».

Такі вось погляд на імпартазамяшчэнне з пункту гледжання прафесійных эканамістаў. Не буду яго аспрэчваць. Ён мае права на жыццё. Але хто сказаў, што рацыяналізацыі падлягаюць толькі імпартныя тавары і паслугі? У нас поўна ўмельцаў, здольных зрабіць аналагічнае з палітычнымі інстытутамі ды культурнымі каштоўнасцямі.

Вытворчасць аналагаў у гуманітарнай сферы ў Беларусі пастаўленая на паток. Адзін з такіх у чарговай сваёй версіі нараджаецца на нашых вачах. Імя яму — «выбары».

Каб не вынаходзіць ровар, прапаную звярнуцца па дапамогу да Вікіпедыі: «Выбары — гэта працэдура абрання каго-небудзь шляхам адкрытага або таемнага галасавання. Выбары — адна з найбольш распаўсюджаных формаў удзелу грамадзян у грамадска-палітычным жыцці дзяржавы, краіны, рэгіёну (рэгіянальныя выбары), арганізацыі і гэтак далей...»

Чытаю — і зайздрошчу. З якім бы задавальненнем я прыняў удзел ў ВЫ-БА-РАХ. Раніцай басаножпа першай расе ўсёй сям'ёй — на выбарчы ўчастак. Але спачатку — у буфет. Шклянка соку з коржыкам... памятаеце, такія эліпсападобнай формы за 8 капеек з пясочнага цеста, а далей... далей пачынаецца самае цікавае: прад'яўленне пашпарта, атрыманне бюлетэня, адзінота ў кабінцы для галасавання... І, нарэшце, фінал — апусканне запоўненага бюлетэня ў скрыню. Няўжо і сёння ўсё гэта магчыма?

«Магчыма. Усё магчыма», — чую я жаночы лісьлівы голас, што льецца аднекуль зверху. А каб мяне не ахапілі сумневы, той жа голас тлумачыць: «Не бойся пандэміі. Яна наклала свой адбітак. І гэта мінус. Але ўсе выбаршчыкі будуць знаходзіцца ў краіне. І гэта плюс. Нават калі яны будуць адпачываць, то мы дамо ўсе магчымасці, каб яны прагаласавалі па месцы адпачынку. Студэнтам мы дамо магчымасць прагаласаваць па месцы іх пастаяннага пражывання, там, дзе яны будуць знаходзіцца ў бацькоў. Людзям, якія будуць на лецішчах, мы таксама дамо магчымасць прагаласаваць у сельсаветах, сельскіх участковых выбарчых камісіях».

Амаль тры дзясяткі гадоў мінулі з моманту «найвялікшай катастрофы XX стагоддзя». Што змянілася? З таго, што ляжыць на паверхні, — кошт коржыка. Што да выбараў, то яны нібыта і ёсць, і адначасова іх як бы няма. Дакладней, выбары ёсць, але без выбару. Нездарма ж адзіны палітык (АП) патлумачыў днямі і някемлівым кандыдатам у прэзідэнты, і іх прыхільнікам, што «краіну яны не атрымаюць». Дык пра якія выбары гаворка?

### Выжываюць толькі наймацнейшыя

Але працягнем падарожжа па азбукавых паліталагічных ісцінах, і дапаможа нам у гэтым расійскі правазнаўца Андрэй Медушэўскі: «У сучаснай глабальнай канкурэнцыі выжывуць толькі наймацнейшыя краіны. А наймацнейшыя — гэта тыя, якія маюць развітую прававую сістэму, грамадзянскую супольнасць, дзе інстытуты працуюць адэкватна і дзе грамадзяне маюць развітую правасвядомасць. А калі гэтага няма, то такая сістэма асуджаная на паразу».

Нічога з пералічанага вышэй у беларускага варыянту моцнай дзяржавы няма, дый не прадбачыцца. Таму не на пустым месцы нараджаюцца крыкі: «Ратуйце! Майданутыя разгойдваюць лодку! Недапушчальна!» Немагчыма канкураваць на знешніх рынках, калі ўся энергія дзяржавы накіраваная на знішчэнне любых відаў канкурэнцыі ўнутры краіны.

Па свежы прыклад хадзіць далёка не давядзецца. 12 чэрвеня АП наведаў Віцебскую вобласць. Размова з вертыкальшчыкамі зайшла пра канкалідаваны экспарт мясцовых відаў паліва (пелет). Галоўная ўмова поспеху, на думку АП, — адсутнасць канкурэнцыі вытворцаў адзін з адным на еўрапейскім рынку: «Пачнем канкураваць адзін з адным, саб'ем цану, у мінус пойдзем па рэнтабельнасці». Выснова не прымусіла сябе доўга чакаць: «Вазьміце ў адны рукі рэалізацыю прадукцыі».

У адны рукі ў 1994 годзе была ўзятая Беларусь. Яе ўсё яшчэ можна пабачыць на палітычнай карце. Дзякуй рэжыму самаізаляцыі. Дасягаецца ён не за кошт «жалезнай заслоны». Дый пра якую заслону можа ісці гаворка, калі істотную частку бюджэтных даходаў забяспечвае транзіт еўрапейскіх тавараў у Расію і расійскай сыравіны ў Еўропу.

Нашу самаізаляцыю забяспечвае «асаблівы шлях». Беларускі палітычны клас з кожным годам культурна ўсё больш не стасуецца са сваімі еўрапейскімі калегамі. Каронавірус гэта лішні раз пацвердзіў. Таму дарэмна чакаюць адкрыцця мяжы з Літвой уладальнікі шэнгенскіх візаў. Зрэшты, гэта прыватнасць. Аднак жыццё з такіх прыватнасцяў і складаецца.

**6–7** МІЛЬЯРД, ЗАКАТАНЫ Ў ЦЭМЕНТ



# Беларусь Эканамічная

**8** БУДУЙ–РАМАНТУЙ
КОЖНЫ З НАС КАЛІ-НЕБУДЗЬ НЕШТА БУДАВАЎ. І ЗАРАБЛЯЦЬ З БУДАЎНІЧЫХ ПРАЦАЎ МОЖА ПРАКТЫЧНА КОЖНЫ

САЦЫЯЛЬНА-ЭКАНАМІЧНЫ ПРАЕКТ «НОВАГА ЧАСУ» | novychas.by



# Карупцыя з верхняга паверху

Павел КІРЫЛАЎ

**Доля будаўніцтва ў ВУП Беларусі апошнім гадамі трохі пераўзыходзіць 5%. Будаўнічых фірмаў становіцца ўсё меней. Каранавірусная эпідэмія, па прагнозах экспертаў, спрычыніцца да іх далейшага скарачэння. Нікуды не падзенецца і іншая зараза: будаўніцтва — адна з самых карупцыягенных галінаў эканомікі.**



Паводле нядаўняга апытання бізнесоўцаў Цэнтрам эканамічных даследаванняў Beroc, адной з лідарскіх галінаў па адсутнасці двухмесячнай падушкі бяспекі з'яўляецца будаўніцтва. Высвілася, што такіх рэзерваў няма ў 60% будаўнічых кампаніяў. Прычым эксперты даюць несуцяшальны для будаўнікоў-бізнесоўцаў прагноз: як у прамысловасці і гандлі, сітуацыя і для іх будзе заставацца негатыўнай па завяршэнні эпідэміі і з надыходам непазбежнай рэцэсіі. У прыватнасці, эксперты Beroc прадказваюць паўтор наступстваў крызісу 2015 і 2016 гадоў, калі праз рэцэсію закрывалася прадпрыемстваў болей, чым адкрывалася.

## Каронавірус супраць дырэктывы

Адпаведна, працягнецца тэндэнцыя і па змяншэнні колькасці занятых у будаўніцтве. Напрыклад, з 2012 па 2018 гады працаўнікоў у гэтай галіне паменела з 360 тысяч да 275 тысяч чалавек. Многія з іх падаліся на працу па розныя бакі мяжы — у Польшчу ды Расію. Але цяпер каронавірус ударыць, відаць, і па будаўнічым бізнесе гэтых краін. Таму беспрацоўным беларускім будаўнікам не так проста будзе ўладкавацца на тамтэйшых будоўлях.

Сітуацыю яшчэ да каронавіруса, увесну мінулага года, улады вырашылі выпраўляць звыклым для сябе метадам — Дырэктывай «Аб прыярытэтных кірунках развіцця будаўнічай галіны». У гэтым дакуменце адзначалася: «Зменшыўся ўнёсак галіны ў валавы ўнутраны прадукт, дапушчана падзенне аб'ёмаў падрадных працаў, узвядзення жылля, абвастраюцца праблемы неплацяжоў, пагаршаецца фінансавае становішча будаўнічых арганізацыяў». Канстатавалася і тое, што «недастатковы ўзровень аплаты працы ў будаўніцтве стаў асноўнай прычынай адтоку кадраў».

Праз каронавірус і негатыўныя рэцэсійныя прагнозы дырэктыўныя мэты, спушчаныя Саўміну і профільным ведамствам, давядзецца карэктаваць або адсоўваць па часе выканання. Напрыклад, долю будаўніцтва ў ВУП, якую ўсталявалі на планцы 6,3%. Або долю беларускай будаўнічай прадукцыі, якая мусіць выкарыстоўвацца пры ўзвядзенні аб'ектаў у нашай краіне, акрэсленую ў памеры да 85%.

Сярод іншых мэтаў Дырэктывы — вытрымліванне нарматыўных тэрмінаў будаўніцтва, у тым ліку шматкватэрных жылых дамоў; забеспячэнне апераджальнага развіцця гарадоў-спадарожнікаў; гарантаванне штогадовага будаўніцтва індывідуальнага жылля ў памеры 40% ад усяго, што будзе ўзводзіцца; скарачэнне колькасці і тэрмінаў адміністрацыйных працэдур, спрашчэнне іх ажыццяўлення на ўсіх этапах будаўнічай дзейнасці з максімальным укараненнем прынцыпу «аднаго вакна».

Ва ўсё гэта верыцца з цяжкасцю, як і ў ліквідацыю карупцыі ў будаўнічай галіне. Прычым, карупцыі дзяржаўнай, якую прадстаўнікі будаўнічага бізнесу называюць адной з галоўных перашкодаў пры вядзенні справаў.

## Карупцыйныя правілы гульні

Паводле вынікаў апытання бізнесоўцаў, праведзенага некалькі гадоў таму тым жа Beroc, амаль 70% з іх перашкодамі на шляху развіцця сваіх фірмаў назвалі канкурэнцыю з боку ценявога бізнесу і дзяржаўную карупцыю. Ёй спрыяюць працэдуры правядзення дзяржзакупак, ліцэнзавання, кватавання, падатковыя льготы, розныя дазволы. Уладальнікі будаўнічых фірмаў, з якімі ўдалося пагутарыць «Новаму Часу», назвалі каля дзясятка розных этапаў будаўніцтва, на якіх прадстаўнікі дзяржаўных арганізацый могуць вымагаць хабар за станоўчае вырашэнне пытанняў. Выдатковыя лішкі плацяцца, пачынаючы ад атрымання ўчастка пад будаўніцтва і заканчваючы здачай аб'екта. У выніку карупцыйны складнік можа займаць да трацiны ўсіх выдаткаў на ажыццяўленне будаўнічага праекта.

**«У сур'ёзным будаўнічым бізнесе, калі твая дзейнасць залежыць ад атрымання стосу дакументаў з розных дзяржкантораў, то застацца па-за карупцыйнымі адносінамі папросту немагчыма...»**

«Я перакананы: калі ты ў больш-менш сур'ёзным будаўнічым бізнесе, калі твая дзейнасць залежыць ад атрымання стосу дакументаў з розных дзяржкантораў, то застацца па-за карупцыйнымі адносінамі папросту немагчыма. Да іх схіляюць заведзеныя правілы гульні. Нават калі ты прынцыпова не "адвалішь" на нейкім этапе, то ў лепшым выпадку страціш час.

Прайсці ўсе адміністрацыйныя працэдуры без "падзяк" немагчыма. А гэта і маральныя, і матэрыяльныя страты. Адпаведна, бізнесоўцы па ланцужку спрабуюць, у сваю чаргу, надурыць дзяржаву, каб кампенсаваць гэтыя незаконныя траты. Таму і практыкуюцца заробкі ў канвертах, таму выкарыстоўваецца праца будаўнікоў без афіцыйнага афармлення, бездамоўнае правядзенне нейкіх працаў і гэтак далей.

Чым болей ты ўзбуйняешся — тым болей карупцыйных сплатаў. Ну, а на маштабныя праекты можна нават не замахвацца, бо там і хабар не дапаможа. Усё падзелена паміж сталымі гульцамі, якія, як кажуць, зрасліся з чыноўніцтвам. Асабліва ў Мінску. Канешне, часам праваахоўныя і кантрольныя органы кагосьці прыцiскаюць, але пераважна гэта малы і сярэдні бізнес.

Натуральна, хабарніцкая сістэма — гэта заўжды рызыка аказацца за кратамі. А ты вымушаны ў ёй абарачацца. Я з гэтай прычыны думаю ў выніку падацца на пенсіі будаваць катэджы поўным цыклам, каб мінімізаваць кантакты з дзяржавай. Каб спакойна сустрэць старасць дома, а не нарах», — распавёў адзін з уладальнікаў будаўнічай фірмы.

Дарэчы, паводле апытанняў, заніжаюць свае даходы дзеля сыходу ад падаткаабкладання дзве трацiны бізнесоўцаў у будаўніцтве. А 55% маюць працаўнікоў-невідзімак. У неафіцыйных плацяжах (прасцей кажучы, дачы хабару) прызналіся 60% апытаных. Столькі ж плацяць заробкі ў канвертах. 30% будбізнесоўцаў наракаюць, што прайгравалі тэндары праз нядобрасумленную канкурэнцыю. Спосабаў абраць загадзя вызначанага пераможцу багата. Напрыклад, каб адсеяць непажаданых удзельнікаў тэндару ці аўкцыёну, дастаткова проста фармальна прычапіцца да афармлення дакументаў, што стане падставай для адмовы фірме ва ўдзеле ў спаборніцтве за выдзяленне ўчастка зямлі або за правядзенне пэўных будаўнічых прац. Яшчэ варыянт — выстаўленне дадатковых абцяжарвальных умоваў пры забудове, якія здатная фінансава або тэхнічна выканаць пэўная «правільная» будаўнічая фірма.

## Садзяць «стрэлачнікаў»

Эканамічны журналіст-расследавальнік Станіслаў Івашкевіч кажа, што самая маштабная карупцыя ў будаўніцтве з цыркуляваннем вялізных сумаў адбываецца тады, «калі дзяржаўныя арганізацыі бяруць на падрады афіляваныя з начальствам прыватныя кампаніі і вымываюць прыбытак праз іх, або калі дзяржава дае прыватнаму бізнесу вялізныя льготы».

Працяг тэмы на стар. 6–7 »

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 5

# Карупцыя з верхняга

Такім чынам могуць здабывацца сотні мільёнаў долараў, «якія не абкладаюцца падаткамі і выводзяцца ў афшор».

«Прыклад з падрадамі. Вось рэканструяваўся стадыён "Дынама" ў Мінску. Замоўца — Упраўленне капітальнага будаўніцтва Мінгарвыканкаму. Генеральны падрадчык — "Будтрэст №1". А на субпадрад бралася кампанія, афіляваная, паводле нашага расследавання ў перадачы "Давайце разбірацца" на тэлеканале "Белсат", з намеснікам дырэктара трэста. Таго самага, які курыраваў "Дынама". Падрады былі на дзясяткі мільёнаў долараў без канкурэнтнай працэдуры на тэндары».

Па ідэі, падрадчыка з найлепшымі ўмовамі трэба абіраць праз адкрыты конкурс. Хаця, што праўда, часам праводзіць іх немэтазгодна, кажа журналіст-расследавальнік: «Умоўна: калі трэба дакупіць вядро фарбы». Але дзяржаўныя закупы павінны быць, па-першае, адкрытыя, а па-другое, публікавацца цалкам: «Павінна публікавацца не толькі абвестка аб закупе, як цяпер, але таксама і падпісаны кантракт з усімі дадаткамі да яго. То-бок, агулам працэдура пастаўкі ад замовы да выканання. Каб можна было адсочваць усе схемы і прадухіляць злоўжыванні. А ў Беларусі ўлада, наадварот, стварыла адну з самых закрытых для грамадскасці сістэм дзяржаўных закупаў. Гаворка і пра будматэрыялы, і пра будаўнічыя працы. Чыноўнікі, якія прымаюць рашэнні па іх выбары для патрэбаў нейкіх будоўляў, ніяк не кантралююцца. І спакуса тут вельмі вялікая, каб такімі паўнамоцтвамі не злоўжываць, узяўшы хабар сабе і тым, хто стаіць вышэй за цябе».

Як чыноўнікі, якіх журналісты ловяць на схемах з прыкметамі карупцыі, рэагуюць на расследаванні? Іх абаронцы адказ, са словаў Станіслава Івашкевіча, наступны: «Маўляў, нас правяралі кампетэнтныя органы — і нічога не знайшлі. І сапраўды, часцяком бывае, што, калі органы нешта знаходзяць, то пакаранні выносяцца за нязначныя хабары, хаця грошы праз падазроныя схемы праварочваюцца насамрэч вялізныя. Сапраўдная антыкарупцыйная барацьба вядзецца, як правіла, з "пешкамі" і "стрэлачнікамі". Ствараецца ўражанне, што буйныя падазроныя схемы кормяць іх удзельнікаў у настолькі высокіх кабінетах, што маюць абарону ад праверак сілавікоў».


Маяк Мінска. Павінна было быць так

Што да выдзялення дарагой зямлі, перадусім сталічнай, то адна справа — цьмяныя аўкцыёны, а іншая — калі ўчасткі ў Мінску перадаюцца буйным гульцам на рынку нерухомасці наўпрост прэзідэнцкім указам. Менавіта такім прывілеяваным чынам атрымала прэміумныя надзелы ў розных частках сталіцы такая нашумелая кампанія, як «Дана Холдынгз». І скандалы з тымі аб'ектамі, якая яна ўзводзіць, здараюцца рэгулярна.

### «Данайцы»

«Дана Холдынгз» належыць сербскім бізнесоўцам — братам Карычам. У Мінску кампанія пачала будаўнічую дзейнасць у 2000-х гадах. І цяпер «Дана» будуе ў сталіцы больш, чым любая іншая кампанія.

Менавіта ёй кіраўнік Беларусі аддаў пад забудову велізарны ўчастак каля Нацыянальнай бібліятэкі пад праект «Маяк Мінска». Яшчэ адзін гіганцкі кавалак зямлі «данайцы» забудоўваюць на тэрыторыі закрытага аэрапорта «Мінск-1». Гаворка аб праекце «Мінск Мір». Апрача гэтага, браты Карычы будуюць пасобныя жыллёвыя комплексы і скандальны бізнес-комплекс «БК Капітал цэнтр» на Кастрычніцкай плошчы. Агулам гаворка вядзецца пра некалькі мільёнаў квадратных метраў жылля. Пры гэтым «Дана» вызвалена — паводле інвестдамоваў — ад цэлага шэрагу падаткаў.

За што даюцца льготы? Кампанія першапачаткова прадстаўляе шыкоўны інавацыйны праект забудовы, які зацвярджаецца. Але будуецца ў выніку зусім не падобнае да таго, што абяцаецца ў эскізах. І ніякіх санкцый за фэйк не настае, зазначае Івашкевіч. Наадварот: «У свой час былы кіраўнік камітэту архітэктуры і будаўніцтва Мінгарвыканкаму Віктар Нікіцін не раз звяртаў увагу свайго вышэйшага кіраўніцтва на парушэнні, якія дапускае "Дана Холдынгз", і на неадпаведнасць яе праектаў таму, як пачынае весціся будаўніцтва. Патрабаваў выпраўлення хібаў. Забудоўшчык паскардзіўся на самы верх. І дбайны чыноўнік быў звольнены разам з усёй камандай калег. Маўляў, за тое, што чыніў перашкоды каштоўнаму інвестару».

# Мільярд, закатаны ў цэмент

Міраслаў ГАЖЭЦКІ

**Белстат паведаміў пра значны рост вырабу і экспарту будаўнічых матэрыялаў у першым квартале гэтага года. Між тым, прыемныя лічбы не павінны ўводзіць у зман. Напрыклад, такая стратэгічна важная для будаўнічай галіны цэментная прамысловасць у Беларусі — адна з самых стратных. Праблема з ёй трывалая, як сам той цэмент: на працягу многіх гадоў, нягледзячы на агромністую дзяржаўную падтрымку. Сітуацыя вельмі ілюстрацыйная для нашай эканомікі.**




Цэмент і будаўнічыя матэрыялы з яго ў Беларусі выбляюць тры заводы, аб'яднаныя ў холдынг «Беларуская цэментная кампанія». Беларускі цэментны завод базуецца ў райцэнтры Касцюковічы на Магілёўшчыне, да яго належаць у якасці філіялаў Мінскі камбінат сілікатных вырабаў, «Магілёўжалезабетон» і «Оршабудматэрыялы». Завод «Крычаўцэментнашыфер» месціцца, адпаведна, у Крычаве Магілёўскай вобласці і мае філіяламі «Наваполацкжалезабетон», «Рагачоўжалезабетон», «Маладзечнажалезобетон» ды іншыя. Нарэшце, прадпрыемства «Краснасельскбудматэрыялы» працуе ў Ваўкавыскім раёне на Гродзеншчыне, у яго структуру таксама ўваходзяць шэраг філіялаў. Ён, дарэчы, знакаміты сваімі крэйдавымі кар'ерамі з блакітнай вадой, якія называюць беларускімі Мальдзівамі.

**Запазычанасць па крэдытах, якія трэба аддаваць — 1,2 мільярда долараў, а магутнасці загружаныя толькі на тры чвэрці, рэнтабельнай працы няма. У выніку дзяржава працягвае выпісваць цэментным заводам беспрэцэдэнтныя палёгкі**

### Трывалая стратнасць

Больш за дзесяць гадоў таму, у час будаўнічага буму, калі нават здараліся перабоі з цэментам, улады Беларусі вырашылі правесці маштабную дарагую мадэрнізацыю згаданых заводаў. Яна палягала ў тым, каб павялічыць магутнасці за кошт укаранення новых ліній з тэхналогіяй вытворчасці цэменту «сухім спосабам». Пры «мокрым спосабе» здрабненне сыравінных матэрыялаў, іх змешванне і карэктаванне сумесі здзяйсняецца з дапамогай пэўнай колькасці вады. «Сухі спосаб» азначае, што гэтыя аперацыі адбываюцца з сухімі матэрыяламі. А выабляецца цэмент, калі коратка, так: сумесь вапны ды гліны абпальваюць пры супервысокіх тэмпературах, дадаюць вяжучыя рэчывы, затым здрабняюць і дадаюць рэчывы

# паверху




Маяк Мінска. Вынік

**Ёсць два рынкі зямлі ў Мінску. Першы: невялічкія надзелы, за якія гульцы на рынку змагаюцца на конкурснай аснове. І другі рынак — для некалькіх фаварытаў кіраўніцтва краіны**

Хаця паўнавартасным інвестарам кампанію «Дана Холдынгз», па словах эксперта, назваць нельга: «Бо яна будуе не за свае сродкі, а за сродкі дольнікаў. Людзі атрымліваюць кватэры па коштах, якія крыху ніжэй за рынкавыя, хаця забудоўшчык мае выдаткі, дзякуючы льготнаму рэжыму, у разы ніжэйшыя за рынкавыя».

То-бок, ёсць два рынкі зямлі ў Мінску, кажа Станіслаў Івашкевіч. Першы: невялічкія, абмежаваныя па колькасці надзелы, за якія гульцы на будаўнічым рынку змагаюцца на конкурснай аснове. Гэтыя ўчасткі абцяжараныя старымі дамамі, якія трэба зносіць і перасяляць жыльцоў. А таксама перабудоўваць інфраструктуру. Адпаведна, сабекошт узведзенага там жылля будзе высокі, як і продажныя кошты на кватэры. І другі рынак — для некалькіх фаварытаў кіраўніцтва краіны. Ім раздаюцца вялікія абшары з падатковымі прэферэнцыямі. Інфраструктуру часта будуюць мінскія ўлады за кошт бюджэту. Гэта зусім іншы ўзровень выдаткаў забудоўшчыкаў. Калі б была канкурэнцыя на гэтым «рынку не для ўсіх», якім ён цяпер ёсць, кошты на жыллё ў Мінску былі ніжэйшымі.

А яшчэ церпяць жыльцы: «Людзям абяцаюць, паводле праектаў "Даны", прасторныя зялёныя месцы з паркоўкамі і добрай сацыяльнай інфраструктурай. Насамрэч жа атрымліваюцца шчыльна натыцканыя панелькі». А між тым, у комплексе «Маяк Мінска», які павінен быў паўстаць у фармаце «горад у горадзе», планавалася пракласці нават водныя каналы з гандоламі (глядзіце на здымках, што павінна было з'явіцца паводле рэндараў, якія шмат разоў пераробляліся на больш сціплыя, і што атрымалася на сумнай яве). Апрача таго, неаднойчы ўладальнікі кватэраў у дамах, пабудаваных «Данай», калектыўна скардзіліся на розныя хібы набытага жылля.

## Выгоднікі — сербы і хакеісты

Хто ж такія сербскія браты Карычы? Чацвёра братоў пачалі займацца бізнесам у былой Югаславіі яшчэ пры Іосіфе Броз Ціта. Пры Слабадане Мілошавічы яны пераўтварыліся ў мільярдэраў. Сярод іншага іх нават называлі «кашальком» дыктатара.

Лукашэнка двойчы бываў у Сербіі пры Мілошавічы — у 1998 годзе і ў 1999-м, акурат падчас бамбардзіровак Белграду. Былая старшыня Нацбанку Беларусі Тамара Віннікава ў інтэрв'ю расійскаму выданню «Коммерсантъ» сцвярджала потым, што другі раз каманда Лукашэнкі, апрача іншага, прыязджала туды нібыта эвакуяваць ад бамбаванняў свае капіталы, якія хавала ў былой Югаславіі пад наглядам Мілошавіча. Пры канцы 2000-х гадоў Лукашэнка адпачываў у сербскім Капаоніку — на гарналыжным курорце, дзе правеў шэраг сустрэчаў з тамтэйшымі алігархамі. Магчыма, так і ўзнік інтарэс Карычаў да будаўнічага рынку сталіцы Беларусі.

Дзейнічаюць таксама драбнейшыя схемы, калі будаўнічыя кампаніі бяруць на працу ці ў невялікую долю былых чыноўнікаў з профільных ведамстваў або іншых набліжаных да ўлады асобаў — напрыклад, партнёраў Лукашэнкі па клюшцы і шайбе, каб яны забяспечвалі жаданы вынік праз свае нефармальныя сувязі.

Перапісваецца пры патрэбе пад фаварытаў па хакеі і заканадаўства. Гаворка пры фірму «Тапас», яе кіраўніка Паўла Белага, і будаўніцтва шматфункцыянальнага комплексу побач з заказнікам «Лебядзіны» паводле ўказа кіраўніка дзяржавы. Эколагі было запратэставалі ў сувязі з пагрозай прыродзе, але высветлілася, што праз змены ў праекце «Тапас» увогуле замахнуўся на зону са статусам «тэрыторыі з адмысловым рэжымам засваення і ўтрымання». У выніку Лукашэнка выдаў указ, якім папросту скараціў межы заказніка. Скандальны праект стаў узаконеным. Бізнес-сяброўства хакейныя партнёры нават і не хаваюць: гэтай зімой Лукашэнка наведаў цырымонію адкрыцця рэстарана «Лебядзіны» на былой тэрыторыі заказніка.

Той самы Дзяржкантроль такім выпадкамі не надта цікавіцца, вядома...

---

кшталту гіпсу, якія адказныя за застыванне.

Мадэрнізацыя цэментных заводаў мела таксама на мэце зрабіць вытворчасць энергазберагальнай — з пераходам ад газу на значна больш таннае пылавугальнае і тарфяное паліва, мясцовае і невалютазатратнае. Што вельмі важна, бо энергія складае да двух трацін сабекошту вырабу цэменту. Таксама як паліва выкарыстоўваюцца зношаныя аўтамабільныя шыны і прасунутае RDF-паліва, якое атрымліваецца з цвёрдых бытавых адходаў (іх перабіраюць, выдаляюць арганіку, а гаручыя часткі кшталту кардона, гумы ці дрэва здрабняюць і прэсуюць).

Мэтамі Праграмы эфектыўнага выкарыстання магутнасцяў арганізацыяў цэментнай прамысловасці на 2015–2020 гады былі пазначаны зніжэнне сабекошту вытворчасці цэменту і адпускных коштаў на яго, забеспячэнне высакаякасным цэментам будаўнічага комплексу і, адпаведна, зніжэнне сабекошту ўзвядзення будынкаў, нарошчванне экспарту цэменту і прадукцыі, якая яго ўтрымлівае. Напрыклад, у 2012 годзе сярэдні сабекошт вытворчасці на трох нашых цэментных заводах быў 88 долараў за тону цэменту. У замежных канкурэнтаў — 55–60 долараў. Нават з улікам выдаткаў у памеры 10–15 долараў на транспарціроўку імпартнага цэменту на беларускі рынак, ён выцясняў наш.

Сабекошт у выніку мадэрнізацыі ўдалося істотна знізіць — нават удвая, аб'ём вытворчасці прадукцыі павялічыць так, каб забяспечваць унутраныя патрэбы цалкам, і каб рос экспарт. Але заводы працягваюць працаваць са стратамі з года на год. Не стаў выключэннем і 2019-ты, нягледзячы на значныя рост выручкі і зніжэнне ўзроўню стратнасці. Але вынікова яна засталася даволі вялікай. Беларускі цэментны завод і «Крычаўцэментнашыфер» скарацілі летась страты ажно амаль на 90%, але яны нікуды не падзеліся — мінус 9 і 17 мільёнаў рублёў. «Красносельскбудматэрыялы» страты знізілі на прыкладна 80% — да 27 мільёнаў рублёў.

## Пралік мадэрнізацыі

Рашэнне аб мадэрнізацыі прымалася ў сярэдзіне 2000-х гадоў, зважаючы на пікавы попыт у ЕС і на постсавецкай прасторы. Хаця многія адмыслоўцы папярэджвалі, што адбудзецца істотнае зніжэнне попыту, да ўсяго ў той самай Расіі пачалі актыўна пераабсталёўваць свае старыя заводы і будаваць новыя. На правядзенне мадэрнізацыі прыцягнулі кітайскія крэдыты. Звязаныя — то-бок, абсталяванне закуплялася тамтэйшае і ўсталёўвалі яго будаўнікі з Паднябеснай. У выніку мадэрнізацыя зацягнулася і праз шэраг праблемаў абышлася даражэй, чым меркавалася. Калі яна завяршылася, выявілася, што і попыт упаў, дый канкурэнты занялі тыя нішы, на якія разлічвалі беларусы.

Запазычанасць па крэдытах, якія трэба аддаваць, роўная 1,2 мільярда долараў, а магутнасці загружаныя толькі на тры чвэрці, рэнтабельнай працы не наладжана. У выніку дзяржава працягвае кожны год выпісваць цэментным заводам беспрэцэдэнтныя палёгкі. Летась указам Лукашэнкі ім прадставілі адтэрміноўкі і растэрміноўкі па даўгах на 10–20 гадоў, вызвалілі на працяглы час ад шэрагу падаткаў. Таксама было ўведзена ліцэнзаванне імпартнага цэменту — каб падтрымаць такім чынам сваіх вытворцаў (нярэдка забудоўшчыкі, перадусім прыватныя, закупляюць не беларускі, а цэмент краінаў Балтыі, бо ён больш якасны і танны). Таксама прадстаўлялася цэментным заводам фінансавая падтрымка з дзяржаўнага бюджэту — і на гэтыя сумы павялічвалася доля дзяржавы ў іх. Дарэчы, інвестары цікавяцца нашымі цэментнымі заводамі. У прыватнасці, ірландскі канцэрн CRH вёў перамовы па набыцці «Красносельскбудматэрыялы». Не сышліся на кошце. Бо беларускі бок хоча, апрача інвестыцый, і пагашэння немалога «красносельскага» доўгу, і традыцыйна сацыяльную нагрузку на інвестара ўсклалі.

І ўжо сёлета выйшла пастанова ўраду, якая забяспечыла тром цэментным заводам гарантаваны збыт унутры краіны. Дзяржарганізацыі абавязалі заключыць з заводамі дамовы аб пастаўках 3,5 мільёна тонаў цэменту. А шэраг дзяржорганаў павінны забяспечыць спажыванне цэменту для аб'ектаў транспартнай інфраструктуры на 400 тысяч тонаў. Каб зразумець, якая гэта палёгка заводам што да збыту, скажам, што летась у Беларусі было выраблена 4,7 мільёна тонаў цэменту. На экспарт пайшло 1,5 мільёна, што, дарэчы, на 10% меней за 2018 год.

## Цэментная вайна з Украінай

Лічбы першага кварталу па вытворчасці і экспарце ўсцешныя. Выраблена яго на 12% болей, чым за аналагічны перыяд 2019 года. Экспартныя пастаўкі павялічыліся на 27%. Пры гэтым у Расію — на 64%, Польшчу — на 65%, Латвію — на 112%. А вось ва Украіну пастаўкі перапыніліся яшчэ ўлетку 2019 года пасля таго, як наша паўднёвая суседка ўвяла высокія (па сутнасці, забарончыя) антыдэмпінгавыя пошліны супраць шэрагу краін, у тым ліку Беларусі. Даўялося заняцца дыверсіфікацыяй экспартных паставак.

Украінцы ўстрывожыліся пасля таго, як у 2017 годзе пастаўкі нашага цэменту туды значна выраслі. Было заяўлена, што беларускі цэмент завозіцца не па рынкавых коштах, якія ўдаецца трымаць нізкімі праз дзяржпадтрымку і дзякуючы выкарыстанню таннага «палітычнага» расійскага газу. Хаця, як мы ўжо казалі, ад газу ў сваёй працы цэментныя заводы амаль адмовіліся. Таксама прагучала абвінавачванне, што беларускі цэмент завозіўся па фіктыўных сертыфікатах. Дарэчы, ва Украіне ёсць праблема фальсіфікаванага цэменту, калі ён закупляецца і расфасоўваецца для продажу насельніцтву недзе ў гаражах з дадаваннем, напрыклад, попелу. Таксама ўкраінскія вытворцы цэменту абвінавацілі і свае ўлады ў тым, што тыя іх не абараняюць і дапускаюць продаж беларускага цэменту па коштах у паўтара разы танней, чым у самой Беларусі. Наша Міністэрства будаўніцтва і архітэктуры ўсе названыя прэтэнзіі адпрэчыла, як і абвінавачванне ў перашкодах для продажу ў нашай краіне ўкраінскага цэменту.

Што да круцялёў з пастаўкамі цэменту, то на непразрыстыя схемы ўказваў і Камітэт дзяржкантролю. Адну з прычынаў, чаму, нягледзячы на вялізную дзяржпадтрымку, не ўдаецца дамагчыся фінансавай устойлівасці цэментных заводаў, КДК убачыў у неабгрунтаваным пасярэдніцтве пры закупах сыравіны для вытворчасці і пры продажы цэменту. Былі выкрытыя пры гэтым і крымінальныя пасярэдніцкія схемы. Зрэшты, карупцыя ў будаўнічай галіне — асобная балючая тэма.



Фота www.vipalp.by

**Вучаць на прамысловага альпініста на спецыяльных курсах. Можна і без будаўнічых спецыяльнасцяў у дыпломе і працоўнай кніжцы, бо на вышыні хапае нескладаных працаў. Але, натуральна, высотнік з будаўнічымі ўменнямі — гэта ваш плюс у пошуку працы**

# Будуй-рамантуй

Сяргей БУЖАЎ

**Кожны з нас калі-небудзь нешта будаваў. І зарабляць з будаўнічых працаў можа практычна кожны. «Новы Час» сабраў ідэі-прапановы, як завесці сваю невялікую справу ў галіне будаўніцтва, прычым без глыбокіх спецыялізаваных ведаў і шматгадовых уменняў, за дастаткова кароткі прамежак часу і са стартавым капіталам, які цалкам можна пацягнуць нават у каранакрызіс.**

## Прамысловы альпінізм

Калі вы не баіцеся вышыні і крыху рукасты чалавек, то можна зрабіцца прамысловым альпіністам. Гэта дастаткова запатрабаваная праца, але з некалькімі мёртвымі месяцамі на год. Асабліва апошнімі гадамі, калі насталі цёплыя зімы, распавядаюць будаўнікі-высотнікі.

Мой сябар падаўся ў «прамальпы» з аматарскага альпінізму пасля некалькіх узыходжанняў на такія нескладаныя для скарэння горы, як Эльбрус. Так што, калі вы аматар турысцкіх скалалажанняў, — гэтая прафесія акурат для вас. Бо сумесціце хобі і працу. Надта сур'ёзную спартовую форму мець не абавязкова, але прыкіньце самі свае намаганні і магчымасці падчас шматгадзіннай працы на вышыні з узнятымі рукамі. Спатрэбяцца спрыт і вынослівасць для карaскання і для ўсялякіх рамонтна-будаўнічых працаў у вісячым вертыкальным становішчы.

З аднаго боку, праца рамантычная і адрэналінавая. Пад радыё на свежым паветры. Мінусы: свежае паветра можа быць халодным, прадзьмуваць і разгойдваць парывамі ветру. Канешне, паводле тэхналагічных нарматываў, рамонтна-будаўнічыя працы на вуліцы праводзяцца пры тэмпературы ад +5 градусаў, аднак на вышыні ў такі час можа быць вельмі сцюдзёна.

З небяспекаў — шмат што залежыць ад самога прамысловага альпініста: трэба добра ўмець вязаць вузлы на вяроўках і як след прымацоўвацца імі за розныя штукі на даху: антэны, бэлькі, агароджы і гэтак далей. Таксама трэба быць гатовым да пагрозаў здароўю і жыццю, якія могуць сыходзіць ад празмерна пільных жыхароў тых дамоў, на якіх вы працуеце. Будаўніка-высотніка могуць успрыняць за злодзея, выклікаць міліцыю ці паспрабаваць перарэзаць вяроўку. А вось для малых дзяцей пабачыць прамысловага альпініста ля вакна на высокім паверсе — сапраўдны атракцыён. Часам жыльцы могуць чым-небудзь пачаставаць. Дарэчы, некаторыя прамысловыя альпіністы падпрацоўваюць у агенцтвах па арганізацыі сюрпрызаў і баўлення часу. Напрыклад, калі трэба ў ролі Дзеда Мароза пагрукацца ў шыбу з мехам падарункаў.

Вучаць на прамысловага альпініста на спецыяльных курсах. Можна і без будаўнічых спецыяльнасцяў у дыпломе і працоўнай кніжцы, бо на вышыні хапае нескладаных працаў. Але, натуральна, высотнік з будаўнічымі ўменнямі — гэта ваш плюс у пошуку працы. Курсы прамысловых альпіністаў непрацяглыя — вывучыцца можна за паўтары тыдні. Кошт пытання — 300–400 рублёў. Навучанне прапануюць некаторыя ВНУ: напрыклад, Міжгаліновы інстытут павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі пры БНТУ або Інстытут перападрыхтоўкі і павышэння кваліфікацыі Універсітэта грамадзянскай абароны Міністэрства па надзвычайных сітуацыях.

На якія працы (афіцыйна гэта гучыць як «выкананне тэхналагічных аперацыяў у безапірышчнай прасторы з прымяненнем альпінісцкага рыштунку») здатны прамысловы альпініст? Гэта — агляд і выяўленне дэфектаў высотных канструкцый (ад шматпавярховікаў да мастоў), фарбаванне і пакрыццё іх антыкаразійнымі матэрыяламі, рэстаўрацыя храмаў і фасадаў гістарычных будынкаў, рамонт гмахаў ад дахаў да балконаў, заладка швоў і ўцяпленне. Мантаж і дэмантаж рэкламных білбордаў. А да таго ж абсяканне галін на дрэвах і мыйка вокнаў. Дарэчы, арбарысцкія працы (па доглядзе за дрэвамі) лічацца аднымі з самых небяспечных. Узімку прамысловыя альпіністы займаюцца прыборкай снегу з дахаў і збіваннем ледзяшоў.

**Не знайшлі працы на радзіме — звярніце ўвагу на вакансіі для будаўнікоў за мяжой. У Польшчу, у прыватнасці, на заробак у два разы «па пяцьсот» (ад 1000 долараў) запрашаюць бетоншчыкаў, арматуршчыкаў, муляроў, рабочых іншых спецыяльнасцяў**

Аднак апошнім часам нашы зімы практычна не даюць такой працы.

Заробак у вопытных высотнікаў можа быць да 1000 долараў. Больш зарабляюць тыя, хто заняты на фрылансе, чым у штаце фірмаў. Важны момант: у адзіночку працаваць нельга, так што заробак за выкананыя працы дзеліцца паміж працаўнікамі брыгады. Для тых, хто захоча скарыстацца паслугамі прамысловага альпінізму, — крыху пра цэннік. Уцяпленне фасаду залежыць ад матэрыялу (пенапласт ці мінвата) і яго таўшчыні. Квадратны метр — прыкладна ад 40 рублёў. Дарэчы, адмысловцы раяць выкарыстоўваць мінеральную вату, якая больш экалагічная і дасць абарону яшчэ і ад шуму з вуліцы. Мантаж кандыцыянера абыдзецца ў 150–200 рублёў. Спілаваць дрэва цалкам — ад 25 рублёў, часткамі — ад 40. Высотная мыйка вокнаў — ад 2 рублёў за квадратны метр.

## Праца за мяжой: каронавірус — не перашкода

Яшчэ адзін дастаткова даступны від бізнесу — пракат будаўнічых інструментаў. Праўда, давядзецца ўкласці як мінімум некалькі тысяч долараў у іх набыццё — новых або былых ва ўжытку. Як варыянт — нешта пазбіраць у сваякоў, сяброў, знаёмых. Канешне, трэба арыентавацца ў прызначэнні інструментаў і ўмець правяраць іх спраўнасць — інтэрнэт і «мануалы» вам у дапамогу. Што да прайсу, то возьмем, напрыклад, пілы. Акумулятарная шаблевая піла з функцыяй нажоўкі для рэзкі галін дрэваў, гіпсакардону ці металу (у залежнасці ад устаўленага ляза-палатна) здаецца ў арэнду за 10 рублёў на суткі. Пліткарэзы і гэблікі — ад 7 рублёў.

Як маеце грошы, можна набыць гатовы бізнес. Тут выбар вельмі багаты. Напрыклад, можна займець фірму-пасярэдніцу коштам некалькі дзясяткаў тысяч долараў. Алгарытм працы такі: збіраюцца заяўкі-замовы клiентаў, пад якія шукаюцца выканаўцы-працаўнікі. Галоўнае тут — добра прасунуты інтэрнэт-партал як актыў фірмы, база будаўнічых брыгад рознага спектру працаў.

«Новы Час» пагутарыў з уладальнікам адной такой фірмы. Ён распавёў, што замовы на рамонт кватэр і катэджаў паступаюць і, адпаведна, працы вядуцца з красавіка па кастрычнік. Галоўная парада — браць болей замоў і пры гэтым працаваць з добрымі, хай і дарагімі, будаўнічымі брыгадамі. То-бок, ваш даход сфарміруецца дзякуючы вялікай колькасці замоваў, і пры якасных выканаўцах вам не давядзецца развязваць з галаўным болем праблемныя будоўлі.

Самыя ж папулярныя прапановы гатовага бізнесу — электрамантажныя фірмы і кампаніі па бурэнні вадзяных свідравін. Але і тут кій з двума канцамі. З аднаго боку, гэта сведчанне таго, што ў Беларусі шмат будуецца індывідуальнага жылля, а з другога — канкурэнцыя на рынку немалая.

Калі ж вы маеце залатыя ў побыце рукі, вядома, можна падацца ў кватэрныя рамонтнікі. Стварайце ІП, заключайце дамову з фірмай-апаратарам рамонтных і будаўнічых паслуг пра здзельную аплату са зручным для вас графікам — і наперад. Больш за ўсё вакансіяў цяпер для электрыкаў і ўніверсалаў у фармаце «хоўм-майстра на гадзіну». Калі аніякай спецыяльнасці не маеце, можна ўладкавацца на будоўлі падсобным рабочым ці рознарабочым. Адно што гэта цяжкая праца «прынясі-прыбяры». Досведу ў такіх вакансіях звычайна не патрабуецца. Абавязкі элементарныя: дапамога пры правядзенні земляных (напрыклад, капанне траншэяў) і бетонных працаў, дэмантаж — прасцей кажучы, злом чагосьці, прыборка і вынас будаўнічага смецця, разгрузка, пагрузка і перамяшчэнне будматэрыялаў, рамонт паддонаў і так далей. Заробак — ад 500–600 рублёў.

Не знайшлі працы на радзіме — звярніце ўвагу на вакансіі для будаўнікоў за мяжой. У Польшчу, у прыватнасці, на заробак у два разы «па пяцьсот» (ад 1000 долараў) запрашаюць бетоншчыкаў, арматуршчыкаў, муляроў, апалубшчыкаў, плітачнікаў ды аздабляльнікаў. Досвед працы патрабуецца не меней за год, і вельмі часта выстаўляецца ўзроставы цэнз — да 50 гадоў. Абяцаюць бясплатнае пражыванне і даезд да месца працы. Але і ўмовы працы дастаткова напружаныя — па 10–12 гадзін шэсць дзён на тыдзень.

Дарэчы, каронавірусная эпідэмія і зачыненыя праз яе межы для працы па-за Беларуссю не перашкода: па працоўных візах і з дамовамі на руках перасоўвацца можна.

# ГКЧП па-амерыканску

Алег НОВІКАЎ

**Некаторыя амерыканцы жывуць у чаканні путчу ў Вашынгтоне.**


Фота www.planeta.press

Напэўна, апошні раз пра пагрозу ваеннага перавароту ў ЗША казалі яшчэ да Першай сусветнай вайны. У 1933 годзе генерал-маёр корпуса марской пяхоты ў адстаўцы Смедлі Батлер публічна заявіў, што група буйных бізнесменаў плануе стварыць падпольную праварадыкальную структуру ветэранаў з Батлерам у якасці лідара. Чальцамі арганізацыі будзе падрыхтаваны дзяржаўны пераварот, каб скінуць прэзідэнта Рузвельта. Да сігналу паставіліся сур'ёзна: у 1934 годзе Батлера нават выклікалі ў спецыяльны камітэт Палаты прадстаўнікоў, але па выніках слуханняў нікога да адказнасці не прыцягнулі.

Тэма магчымага перавароту ў Белым доме вярнулася ў амерыканскую палітычную дыскусію толькі ў кадэнцыю Трампа. Прычым, вярнуў яе сам амерыканскі прэзідэнт. Мінулай восенню Трамп кваліфікаваў спробу імпічменту з боку Палаты прадстаўнікоў як неканстытуцыйную «спробу перавароту».

З-за хаосу і паралюшу ўлады, якія выклікала эпідэмія COVID-19 і беспарадкі на падставе расізму, тэма перавароту ў Злучаных Штатах зноў набыла актуальнасць, але ў новым ракурсе. Апаненты Трампа ледзь не адкрытым тэкстам заклікаюць вайскоўцаў да канспірацыі. У канцы красавіка журналіст ліберальнага часопіса The New Yorker адкрыта задаўся ў Twitter пытаннем: «Ці не надышоў час для ваеннага перавароту?»

У гэтым лагеры нават паўстала дыскусія: наколькі этычны з пункту гледжання дэмакратыі пераварот супраць дэмакратычна абраных лідараў? У сувязі з гэтым вылучаецца гіпотэза «добрага перавароту» — перавароту, які можа спрыяць дэмакратыі шляхам выцяснення дыктатараў або аўтакратычных рэжымаў.

Фантазіі дэмакратаў накont таго, што жаўнеры могуць зрынуць Трампа, будуюцца на шэрагу фактаў. Чаканне путчу, найперш, стымулявала нядаўняя тырада міністра абароны Марка Эспера, які заявіў, што ён і яго штаб не падтрымліваюць прымяненне «Закона аб паўстанні». На базе гэтага закона Трамп мог мабілізаваць федэральныя войскі для разгону пратэстаў. Такім чынам, у наяўнасці ёсць факт калектыўнага непадпарадкавання дзеючых вайскоўцаў і адмова выконваць загад прэзідэнта.

Дарэчы, жаданне Трампа пусціць у ход войскі супраць маніфестантаў дэмакраты тлумачаць таемным намерам гаранта арганізаваць свой путч. Калі ваенныя пачнуць наводзіць парадак, інцыдэнтаў не пазбегнуць. Гэта, маўляў, адразу дасць прэзідэнту фармальныя падставы настойваць на ўвядзенні надзвычайнага становішча і передачы яму дыктатарскіх паўнамоцтваў. Выступ Трампа 13 чэрвеня ў ваеннай акадэміі Вест-Пойнт, у рамках якой ён паабяцаў Пентагону два трыльёны долараў, таксама разглядаюць у логіцы гэтай версіі.

**Пакуль значна больш прыкмет таго, што Трамп і генералы не могуць знайсці агульнай мовы. Днямі іх адносіны яшчэ больш сапсавала трактоўка гістарычнай спадчыны**

Зрэшты, пакуль значна больш прыкмет таго, што Трамп і генералы не могуць знайсці агульнай мовы. Днямі іх адносіны яшчэ больш сапсавала праблема трактоўкі гістарычнай спадчыны. Аказваецца, у амерыканскай арміі хапае розных фарміраванняў, якія названыя ў гонар генералаў рабаўладальніцкай Канфедэрацыі. У кантэксце апошніх падзей Мінабароны пачалі пазбаўляцца ад «крывавага мінулага». 8 чэрвеня згаданы вышэй Эспер заявіў, што разглядае магчымасць перайменавання базаў, названых у гонар генералаў Канфедэрацыі. У адказ на гэта 10 чэрвеня Трамп напісаў у Twitter: «Мая адміністрацыя нават не стане разглядаць магчымасць перайменавання гэтых цудоўных, легендарных ваенных баз».

Вонкава ўсё выглядае так, што вось-вось па ўсіх амерыканскіх каналах будуць круціць «Лебядзінае возера». Аднак у шматлікіх экспертаў ёсць сумневы ў такім сцэнары. Няглядзячы на тэорыю «пазітыўнага перавароту», на медыя-дэманізацыю фігуры Трампа і яго курсу, ідэя ўмяшання ў грамадзянскую палітыку — табу для многіх вайскоўцаў. Пагроза змовы генералаў супраць дэмакратыі заўжды была адной з любімых тэмаў Галівуду. Дастаткова прыгадаць фільм «Сем дзён у траўні» рэжысёра Джона Франкенхаймера, які стаў асновай для мноства рымейкаў. З улікам гэтага і іншых фактараў паліталагічная кантора One Earth Future ацэньвае рызыку перавароту ў ЗША ў 2020 годзе ўсяго ў 0,39 працэнта.

Зрэшты, нават тыя, хто не верыць у пераварот, дапускаюць умяшанне вайскоўцаў у палітыку пасля прэзідэнцкіх выбараў у лістападзе. Трамп або Байдэн могуць адмовіцца прызнаць вынікі галасавання і абвесціць мабілізацыю сваіх прыхільнікаў супраць фальсіфікацый. Калі супрацьстаянне выйдзе ў гарачую фазу, магчымы так званы «балівійскі сцэнар». Мінулай восенню ў Балівіі пратэсты супраць фальсіфікацый выбараў прымусілі армію ўмяшацца і ўсталяваць пераходны рэжым.

З іншага боку, працэсам у Злучаных Штатах уласцівы такі дынамізм, што лістападаўскі крызіс можа пачацца ў любы момант. Брытанская Guardian цытуе Мару Карлін, былую намесніцу міністра абароны ЗША па пытаннях стратэгіі і развіцця ўзброеных сілаў: «Высокапастаўленыя афіцэры ўзброеных сіл вядуць паміж сабою мноства па-сапраўднаму цяжкіх размоў датычна таго, што можа адбыцца ў наступныя шэсць месяцаў, якія загады яны могуць атрымаць і якія дзеянні будуць правільнымі ў тых абставінах». Каментар Мары Карлін апублікаваны ў артыкуле з характэрнай назвай: «А могуць і зрынуць».

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Паўсюль беларускія шпіёны?

Аказваецца, уся Расія пакрытая сеткай беларускіх шпіёнаў. Пра гэта заявіў журналіст расійскага нацыяналістычнага сайта «Спутник і Погром» Кірыл Авер'янаў-Мінскі.

Праўда, тыя шпіёны — не агенты беларускай разведкі, якіх закінулі ў расійскі тыл. Яны — актывісты кампартыі Зюганава, якія, маўляў, знаходзяцца на службе Мінска. Найперш беларуская «пятая калона» займаецца ў Расіі праслаўленнем лукашэнкаўскай Беларусі як альтэрнатывы пуцінскаму алігархічнаму рэжыму. Таксама шпіёнам даручана місія лабіявання беларускіх эканамічных інтарэсаў. «Яны ўпарта тут, у Маскве, Лукашэнку дапамагаюць. Ва ўсіх нафтагазавых канфліктах яны ўстаюць на бок Лукашэнкі», — скардзіцца Кірыл Авер'янаў-Мінскі.

Ён таксама лічыць, што павуціннем беларускай агентуры аблытаныя не толькі структуры кампартыі, а нават і расійская вертыкаль. Лукашэнка, паводле Авер'янава, мае сваіх агентаў таксама ў МЗС РФ і ў органах Саюзнай дзяржавы, што дазваляе спыняць любую дзейнасць Расіі ў Беларусі.

Цяжка сказаць, наколькі Авер'янаў-Мінскі валодае інфармацыяй. У любым выпадку, яго заявы сведчаць, што беларуска-расійскія адносіны — далёка не радасныя.

**Паводле расійскай прэсы**

### ГРЭЦЫЯ. Царква супраць ёгі

Лідары Грэчаскай праваслаўнай царквы афіцыйна заклікалі паству адмовіцца ад заняткаў ёгай. Гэтая практыка, па іх словах, «цалкам несумяшчальная» з хрысціянскай верай. У заяве Святы Сінод царквы падрабязна тлумачыць, што ёга — гэта не «від фізічных практыкаванняў», а, хутчэй, «фундаментальная частка індуізму».

Рашэнне Сіноду зноў гальванізавала старую спрэчку — наколькі ёга з'яўляецца часткай індуісцкай рэлігіі. Некаторыя з гісторыкаў сцвярджаюць, што людзі пачалі сядзець у позе лотаса яшчэ да афармлення індуізму ў адмысловую рэлігійную школу. Акрамя таго, нават у самой Індыі многія напрамкі ёгі не маюць духоўнага зместу.

Цікава, што ў Каліфорніі ў 2015 годзе мясцовы суд пастанавіў: заняткі ёгай не з'яўляюцца рэлігійнай дзейнасцю. Такім чынам, атрымліваецца, што праваслаўныя грэкі могуць спакойна парушаць рашэнні Сіноду.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Кант таксама быў расістам?

Да Германіі дайшла мода зносіць або апаганьваць помнікі людзям, якія пры жыцці падтрымлівалі расізм. Адпаведна, пачалі высвятляць, хто з немцаў быў расістам. Аказалася, што такіх тэорый прытрымліваўся і вядомы філосаф Імануіл Кант (1724–1804). Кант у сваіх працах падзяляў чалавецтва на чатыры розныя расы. Прычым, белая раса, як пісаў Кант, была самай разумнай, самай прыгожай і найлепшай. Ён таксама называў еўрапейцаў «абаронцамі сусветнай культуры», што можна разглядаць як маральнае алібі Захаду на імперскія заваёвы.

Расісцкія штудыі Канта не атрымалі шырокай вядомасці, але яны знаёмыя гісторыкам. Адзін з іх, Міхаэль Зевске, ужо выказаўся за тое, каб пры складанні спісу асобаў, адказных за расізм, уключыць туды і Канта. «Ён быў адным з заснавальнікаў еўрапейскага расізму», — мяркуе гісторык. Зрэшты, магчыма, помнікі Канту зносіць не будуць. У тым ліку таму, што нямецкая грамадства цяпер зацікавілася прапановай не зносіць помнікі, а проста класці іх на зямлю або нахіляць. Такім чынам людзі маглі б глядзець на гісторыю інакш, мяркуюць аўтары ініцыятывы.

**Паводле нямецкай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Тры гады за абразу Елбасы

Жыхар Караганды Арман Хасенаў стаў першым казахам, асуджаным па артыкуле «Публічная знявага ці іншы замах на гонар і годнасць першага прэзідэнта» пасля таго, як сам Назарбаеў сышоў у адстаўку.

12 красавіка ў YouTube з'явіўся ролік, у якім Хасенаў выступіў з шэрагам рэзкіх заяваў на адрас былога прэзідэнта. Аўтар відэа, у прыватнасці, выкарыстаў нецэнзурныя выразы і заявіў, што «не баіцца адказнасці». На ролік звярнулі ўвагу карыстальнікі сацыяльных сетак, а на Хасенава — камітэт нацыянальнай бяспекі. На наступны дзень пасля з'яўлення відэа яго арыштавалі, каб днямі ў закрытым рэжыме суд прысудзіў яго да трох гадоў абмежавання волі.

Праваабаронцы кажуць, што Хасенава асудзілі паказальна, каб даслаць сігнал тым, хто збіраецца выйсці на вуліцы ў рамках запланаваных неўзабаве ўрачыстасцяў з нагоды 80-годдзя Елбасы. Таксама праваабаронцы звяртаюць увагу на тэрмін пакарання. Падчас прэзідэнцтва Назарбаева як мінімум шэсць чалавек прыцягваліся да адказнасці па абвінавачванні ў яго «абразе», але больш за два гады ім не давалі.

**Паводле казахстанскай прэсы**

# Успаміны партызана

Сымон БАРЫС

**Пасля вайны мінула 75 гадоў. Вырасла новае пакаленне, якое зусім не ведае сутнасці вайны. І ўяўляе яе як гульню ў футбол, у хакей ці парад у Мінску, што нядаўна адбыўся. І тыя, хто яго праводзіў, сапраўднай вайны таксама не ведаюць.**



Партызанскі атрад імя Шчорса

Я таксама не ваяваў. Але маё дзяцінства было ў вайну, і мне давялося быць на лініі фронту пад нямецкай бамбёжкай. Такое пекла ніколі не забываецца. А потым сталася, што партызанка, у якой я (настаўнік) жыў на кватэры, угаварыла мяне запісаць успаміны партызан. Я не збіраўся іх друкаваць, але потым атрымалася надрукаваць за ўласныя грошы «Бліскавіцы над Заслаўем» у 2015 годзе. Вось толькі ўспаміны Івана Сянкевіча я нідзе не друкаваў, дый не збіраўся гэтага рабіць. Але, паглядзеўшы сёлетні парад, праведзены па-руску і па-савецку ў піку Пуціну, захацелася надрукаваць успаміны кіроўцы аўтамашыны і былога партызана Івана Сянкевіча.

*Іван Сцяпанавіч Сянкевіч, шафёр I класа, працаваў у АТК Міністэрства культуры БССР. Былы партызан атрада імя Шчорса Чапаеўскай брыгады. Пасля вайны — супрацоўнік міліцыі. Калі Іван Сцяпанавіч пайшоў на пенсію, то месца бацькі ў гэтым аўтапарку заняў яго сын.*

### Сын палка

Пасля бою я збіраў трафеі. Непадалёк спыніўся штаб Беларускай ваеннай акругі — яны адступалі. Я папрасіў узяць мяне з сабой. І яны ўзялі мяне, а пасля адправілі ў тыл. Так я аказаўся аж за Масквой у спецыяльнай школе, у якой вучылі ваяваць у тыле ворага. Вучылі ездзіць на многіх відах транспарту. Там я стаў шафёрам, але за руль аўтамашыны сеў толькі ў 1944 годзе. Потым мяне ў складзе групы скінулі з самалёта на парашуце на Капыльшчыне. Наша санітарка завісла на дрэве і нагу зламала. Ёй вельмі не пашанцавала.

Служыў я ў атрадзе Шчорса Чапаеўскай брыгады. Удзельнічаў у некаторых баях, хоць я і быў самы малады сярод партызан.

У 1941 годзе мясцовыя жыхары забітых воінаў хавалі са зброяй. А куды ім яе падзець?! А вось калі з'явіліся партызанскія атрады, дык зброі не хапала. А дзе яе браць? Або ў немцаў забіраць, або адкопваць закапаную. Даводзілася раскопваць магілы, каб ад нябожчыкаў забраць зброю. Дзе-нідзе ўвесь твар быў згніўшы або заставаліся толькі косці. Вінтоўка была не каля кожнага трупа. Можаце ўявіць, колькі мы патрывожылі нябожчыкаў. Шукалі зброю. Каля некаторых знаходзілі яе шмат. Забіралі карабіны і рамяні з патранташам.

### Напад на Доктаравічы

Да вайны ў Доктаравічах быў саўгас. Пасля акупацыі немцы яго не распусцілі, а зрабілі сваю гаспадарку, якой кіраваў немец, а яму дапамагалі два чэхі. Тут выраблялася масла і кансервавыя бляшанкі для Германіі. Была тут таксама і паліцэйская ахова.

Чэхі наладзілі сувязь з нашым партызанскім атрадам. Мы ведалі, калі будзе падрыхтаваны вялікі груз для адпраўкі ў Германію. Прадукты былі патрэбныя і партызанам. Партызаны ноччу рабілі напад на гэты невялікі гарнізон. Паліцэйскіх расстрэльвалі, а чэхаў і немца распраналі да бялізны, крыху білі, у бялізне адпраўлялі ў бункер і тлумачылі ім: «Вам пакінулі жыццё, бо вы — мабілізаваныя воіны, а паліцэйскія — гэта здраднікі». Такіх нападаў зрабілі некалькі, а пасля па дамоўленасці з чэхамі вырашылі забраць іх у свой атрад. Гэтым разам чэхаў не распраналі, і яны свайго немца павесілі на асіне.

### Нямецкія боты

Раніцай у 1942 годзе немцы са слуцкага гарнізона паехалі ў Раёўку, што на Капыльшчыне, і спалілі палову вёскі. Цяпер там знаходзіцца магіла ахвяр фашызму.

Немцы ў Раёўцы напіліся і ехалі п'яныя ў Слуцк. А мы на дарозе ўжо трэці дзень немцаў чакалі. Засаду зрабілі на ўскрайку лесу, а далей — поле. З кулямёта застрачылі па матору аўтамашыны. Яна спынілася. Немцы пасаскоквалі з грузавіка і сталі адстрэльвацца. Пачаўся бой. У лес збегчы яны не могуць, бо тут жа мы. Тых, хто ўцякаў у поле, мы касілі свінцом з кулямёта і з аўтаматаў. А адзін немец залёг за кола аўтамабіля і доўга страляў, пакуль мы не зайшлі збоку і яму пад азадак гранату не кінулі. Адразу ўсё сціхла.

Зброю нямецкую мы забралі. А я ў аднаго немца забраў боты — абуўся. Але насіць мне тыя боты не давялося. Забіты немец прысніўся мне. Ён казаў мне: «Аддавай мае боты!» Давялося боты выкінуць. Насіць іх я не змог.

Трупы немцаў каля дарогі валяліся некалькі дзён, распухлі. Толькі потым іх закапалі.

### Захоп Грэска

У мястэчку Грэск, што на Случчыне, быў нямецка-паліцэйскі гарнізон і склад са збожжам. Партызаны нашага атрада вырашылі гэты склад спаліць. Некалькі чалавек пераапрануліся ў паліцэйскую форму і пайшлі ў мястэчка. Далі мне бясшумны пісталет, і я прыйшоў на прахадную гаспадарчага двара. Паліцэйскі, які быў на варце ў прахадной, спаў (можа, быў нападпітку). Я зайшоў з другога боку склада і разліў прынесены бензін. Падпаліў яго і прыйшоў на прахадную — вартавы паліцэйскі яшчэ спаў. «Пісталет не спатрэбіўся», — кажу сваёй ахове. Адходзім, але адзін з байцоў запярэчыў: «А як яго пакідаць?» Пайшоў і закалоў паліцэйскага, і потым штык ад вінтоўкі аб траву выцер.

Яшчэ мы вырашылі з начальнікам паліцыі расправіцца. Пагрукалі ў акно яго хаты. Прыкінуліся паліцэйскімі з немцам. Пусцілі нас у хату. Зайшлі да начальніка ў асобны пакой. Ён пытаецца, хто мы. Адказваем: «Партызаны». А ён не верыць: «Хопіць жартаваць. Прызнавайцеся, а то магу і да сценкі паставіць. Магу і расстраляць». З бясшумнага пісталета выстралілі і пайшлі.

Выйшлі з мястэчка, а немцы пачалі страляць. Гэтым яны палохалі нас. Напэўна, жонка начальніка паліцыі агледзела, што яе мужыка забілі, і сказала немцам. Мы намечанае ўсё зрабілі. Гэта стральба ад іх страху ў цемру нам ніякай шкоды не зрабіла.

### Ганька — кат

Гэтае здарэнне цяжка апісаць, але яно мае выхаваўчае значэнне. Часта малаадукаваныя мужчыны, дый жанчыны таксама, атрымаўшы ў свае рукі зброю і хацяў б невялікую ўладу, забываюцца пра хрысціянскія запаветы. Яны нібы пачынаюць служыць не людзям, а чорту. І ён такім «звышлюдзям» нібы даруе іх грахі. Але ўсё гэта можа быць да нейкага часу, а потым прыходзіць расплата. У нямецка-паліцэйскім гарнізоне Капаткевічы быў паліцэйскі Пётух, які гвалціў дзяўчат, і ўсё яму сходзіла з рук. Ніякай управы на яго нельга было знайсці. Пра яго злачынныя выхадкі даведаліся партызаны і зрабілі на яго аблаву. Трапіў ён у рукі партызан, і прывялі яго ў наш атрад. А ў асобым аддзеле нашага атрада служыла партызанка Ганька. Чамусьці ёй і даверылі разабрацца з тым Пётухам, гвалтаўніком тутэйшых дзяўчат. Ніхто не ведаў, якія здольнасці для таго мае тая Ганька. Хутка даведаліся пра гэта ўсе. Яна здзекавалася з яго і катавала яго самымі жахлівымі спосабамі. Узяўшы ў рукі яго чэлес, які папсаваў многіх дзяўчат, адсекла яго кінжалам. І толькі пасля многіх пакут яго расстралялі. Большага і страшнейшага пекла для гвалтаўніка Пётуха і прыдумаць было нельга.

Усе мужчыны-партызаны зненавідзелі Ганьку. «У Чапаева была Ганька-кулямётчыца, а ў нас Ганька-кат», — гаварылі яны. Праславілася яна і ў допытах і катаванні іншых паліцэйскіх, якіх толькі потым расстрэльвала. Страшная была гэта жанчына. З выгляду яна больш нагадвала мужчыну. Тонкая і хударлявая, як дошка. Ні ў яе цыцак, ні зада. Праўда, некаторыя мужчыны-партызаны цягалі і яе ў кусты. Няўжо хто можа ўзяць такую Ганьку сабе ў жонкі?! Кат — ён і ёсць кат. А яшчэ страшней, калі ў ролі ката бывае жанчына. Не можа быць сямейнага шчасця ў такой маці, якая была жахлівым катам.

### Вазьмі мяне на парукі

Аднойчы на тэрыторыю, дзе знаходзіўся наш партызанскі атрад, зайшла група жанчын і дзяўчат з кошыкамі для збору ягад. Было гэта недзе ў канцы ліпеня 1943 года. Што здзівіла партызанаў: «Чаму і як яны сюды так глыбока ў лес зайшлі? Можа падасланая разведка?»

Усіх жанчын з ягадамі затрымалі, пасадзілі ў асобнае памяшканне і прыставілі да іх ахову. Пачалі высвятляць, адкуль яны, як сюды трапілі. Выявілася, што гэта жонкі і палюбоўніцы з бліжэйшага паліцэйскага гарнізона. Чаго жонкам паліцэйскіх ісці да партызан? Безумоўна, у разведку. Але як даказаць, што гэта сапраўды так? А можа яны трапілі сюды выпадкова? Ішлі па лесе, збіралі ягады і ўбачылі партызанскія зямлянкі і шатры. І такое магло быць. Праўда, доказ разведкі знайшоўся зусім нечакана.

Калі я ахоўваў гэтых арыштаваных жанчын, да мяне падышла маладая дзяўчына і запыталася:

— Як цябе клічуць?

— Янка.

— А мяне — Марыя. Ты мне спадабаўся. Я хачу стаць партызанкай. Вазьмі мяне на парукі. Я буду з табой сябраваць. Буду тваёй каханкай, калі згодзен. Трапіла я сюды пад прымусам. Я раскажу твайму камандзіру ўсю праўду. Хай мяне дапытае.

Мне дзяўчына таксама спадабалася. Здалося, што яна казала праўду. Пасля сваёй вахты я зайшоў да камандзіра і далажыў аб прапанове Марыі. Я захацеў узяць яе на парукі, калі яна трапіла ў гэтую кампанію выпадкова.

Выклікалі яе на допыт. Яна прызналася, што яе згвалціў паліцэйскі і прымусіў яе з ім жыць. А калі не згодзіцца, дык адправіць яе на работу ў Германію. Давялося цярпець яго, хоць ён і не падабаецца ёй. А жанчыны трапілі сюды да партызан з пэўнай мэтай: «Гэта ўсе жонкі і палюбоўніцы паліцэйскіх. І мой гвалтоўнік мяне сюды адправіў. Напэўна, спадзяваўся, што я ўжо прывыкла да яго. Я прашу ўзяць мяне ў партызаны».

— А я паручаюся за яе і вазьму пад сваю ахову, — заявіў тады я.

— Сянкевіч, ты малады і адважны партызан. Я давяраю табе Марыю, але папярэджваю і цябе, і яе. Адказваеш за яе сваёй галавой. Паспрабуе вярнуцца ў гарнізон, без ніякіх папярэджванняў — у расход. Мы ваюем, а на вайне пакаранне адно — расстрэл. Ні на крок ад сабе яе не адпускай. Будзеце разам хадзіць на заданне.

Вось так я і займеў сабе каханку.

Зразумела, што было потым. Пасля вячэры мы ўдваіх пайшлі збіраць ягады. Зайшлі ў хмызняк. Я нявопытны малады хлопец, а яна ўжо аб'езджаная дзеўка. Можа аднагодка, а можа і на пару гадоў старэйшая за мяне. Усё адбылося па ўзаемнай згодзе. А куды ёй было падзецца?! Ёй я быў патрэбны як ратавальнік ад яўнай смерці, а ўжо пасля — як мужчына. Вось яна і зрабіла з мяне, з дзецюка, сапраўднага мужчыну. Спадзяюся, што ёй са мною было весялей і лепш, чым з гвалтаўніком, бо яна сама мяне выбрала ў палюбоўнікі. Такім чынам, у мяне была сяброўка-партызанка і ваяваць мне стала весялей.

— Вы з ёй пасля вайны і пажаніліся? — пытаюся.

— На жаль, не. Не дажыла яна да вызвалення Беларусі. Загінула.

### ППЖ Шура

Пасля вызвалення Беларусі я аказаўся ў Чырвонай Арміі. Служыў у зенітнай артылерыі, вазіў цягачом гарматы. У нашай часці былі ў асноўным дзяўчаты. Да мяне стала заляцацца Шура. Мне тады было каля 17 гадоў, хлапец яшчэ. Я саромеўся з дзеўкамі цягацца, а можна было. Выбар быў вялікі. Але мяне пакахала Шура. Яна мне казала: «Кахаю цябе. Не магу без цябе». Так яна і стала маёй паходна-палявой жонкай, або, як казалі тады, ППЖ. Абяцалі адзін аднаму пабрацца шлюбам, як скончыцца вайна.

Вайна скончылася. Дзяўчат дэмабілізавалі першымі. Яна мне пісала лісты з Алтайскага краю. Нарэшце дэмабілізавалі і мяне. Вырашыў, што паеду да сваёй каханкі, а фактычна да жонкі, і там пажэнімся. Паехаў у той далёкі Алтайскі край.

Дзверы адчыніла яе маці. Я прашуся, каб пусцілі салдата пераначаваць хоць адну ноч. Маці згаджаецца, а я потым у яе пытаюся: «А дзе Шура?» Яна кажа: «Там спіць». Пайшоў я ў другі пакойчык, а там мая Шура з другім мужчынам ляжыць у ложку. Я назад, каб не перашкаджаць ім. Шура папёрла таго мужчыну — і да мяне. Маці на яе крычаць стала, што мяне не пачакала. Я кажу: «Дарую ёй». «У ногі салдату, сцерва!» — крычыць маці. І я застаўся там жыць, напэўна, засумаваў без жанчыны, дый прывык. А пасля іх суседзі сталі мне казаць: «С кем ты связался?! Не видишь, что она гулящая?»

Аднаго разу я заўважыў, што Шура з мужыком у гумно пайшла. Я сабраўся і паехаў у Беларусь. Ёй лістоў больш не пісаў.

*Калі нехта прачытае гэтыя ўспаміны ў тых паселішчах, якія тут успамінаюцца, і заўважыць нейкія недакладнасці, ці мае нешта дапоўніць, аўтар просіць напісаць у рэдакцыю газеты.*

**22 верасня 1943 года адбылося тое, да чаго не адзін год прафесійна і старанна рыхтаваліся як у Беларусі, так і ў Маскве: быў забіты кіраўнік Генеральнага Камісарыята Беларусь Вільгельм Кубэ. І па сёння вядуцца спрэчкі, чыя галоўная заслуга ў той геройчнай акцыі. Але як даволі шырокія колы беларускага грамадства паставіліся да той ахвяры?**


Вільгельм Кубэ з жонкай наведваюць сядзібу ў Прылуках. Фота jivebelarus.net


Вільгельм Кубэ ў Мінску

# Хто замовіў Вільгельма Кубэ?

Леанід ЛЫЧ,
доктар гістарычных навук

Забойства Кубэ, на мой погляд, — вялізная, нічым неапраўданая дэмаграфічная страта для беларускага народа: за смерць аднаго ворага фашысцкія каты забілі 1500–2000 чалавек! Ісці на пагібель такой колькасці сваіх грамадзян дзеля таго, каб у ворага на аднаго палітыка, няхай сабе ў чымсьці і прыкметнага, стала менш — гэта нешта іншае, як элементарная дурнота. Каб пераканацца ў гэтым, аўтар задаваў многім бацькам пытанні, ці аддалі б яны жыццё свайго дзіцяці (калі ў каго іх нават больш за трох у сям'і) у ахвяру за забойства Кубэ. Ніхто не адказаў: «Так». Ніхто з дарослых дзяцей на сфармуляванае мной пытанне не пагадзіўся ахвяраваць бацькам, каб толькі звесці ў магілу акупанта №1 Беларусі.

Як найбольш уражлівыя, пачуццёвыя з-за свайго маладога ўзросту бліжэй за ўсіх прынялі да сэрца канец Кубэ юнакі, аб'яднаныя ў Саюз Беларускай Моладзі. Ніхто іншы, як менавіта Кубэ, з'яўляўся «бацькам» гэтай грамадскай моладзевай арганізацыі. Як толькі яе сябрам стала вядома пра гібель Кубэ ў ноч з 21 на 22 верасня 1943 года, яны ў момант прыйшлі ў рух. «На другі дзень пасля гэтага сумнага здарэння, 22 верасня Шэф Кіраўнічага Штабу і Кіраўнічка Юначак пры Кіраўнічым Штабе з'явіліся ў суправаджэнні сваіх бліжэйшых супрацоўнікаў у нямецкі шпіталь, дзе былі часова паложаны смяротныя рэшткі гаўляйтэра, каб сваімі сціплымі букетамі красак ушанаваць яго памяць. Яны таксама бралі ўдзел у жалобна-ўрачыстым пераносе дамавіны нябожчыка ў залю франтавога тэатру», — пісала «Беларуская газэта», што выдавалася ў акупацыйным Мінску

У галоўным органе акупацыйнага беларускамоўнага перыядычнага друку «Беларускай газэце» пра забойства Кубэ паведамілі толькі 26 верасня. Ёсць над чым задумацца. Увесь матэрыял яе першай старонкі быў узяты ў чорныя рамкі і насіў назву «Гэнэральны Камісар Гаўляйтэр Вільгельм Кубэ загінуў ад подлае забойчае рукі». Змешчаны яго фотаздымак з такім тэкстам: «Сяньне ўначы ахвяраю баязьлівага і здрадлівага забойства загінуў Гэнэральны Камісар Беларусі Гаўляйтэр Кубэ». Далей ідзе тэкст з трох невялікіх абзацаў, падпісаны кіраўніком Галоўнага Аддзела Генеральнага Камісарыята Беларусі Баўэрам і кіраўніком СС і Паліцыі на Беларусі Куртам фон Готбэргам. Прывяду з яго толькі два сказы: «З Вільгельмам Кубэ мы страцілі заўсёды гатовага да змагання й руплівага да сваіх супрацоўнікаў кіраўніка... Мужнасць, вернасць і жаўнерскае выкананне абавязку былі зместам яго жыцця».

Ёсць сэнс згадаць змешчаныя ў гэтым нумары «Беларускай газэты» біяграфічныя звесткі пра Кубэ пад загалоўкам «Вільгельм Кубэ — змагар за волю». Дзейнасці Кубэ ў ролі кіраўніка Генеральнай акругі Беларусь дадзена надзвычай высокая адзнака. «Беларусь сталася часткай ягонага жыцця, бо важна было даць народу волю», гэта значыць таго, чаго яму не далі за 25 гадоў і бальшавікі. «Аж да апошняй гадзіны служыў ён гэтай мэце... Моладзь Беларусі бачыла ў Вільгельму Кубэ свайго бацьку — апекуна і заступніка». Заканчваўся той матэрыял сцвярджэннем, што забойцаў «пасягне жорсткая кара». Такога не здарылася. Яны перажылі вайну, карысталіся ўсімі ўведзенымі савецкай уладай ільготамі. А вось бязвінных людзей, як лічаць некаторыя даследчыкі, фашысцкія каты знішчылі ажно паўтары-дзве тысячы! Зусім не эквівалентная цана.

На правах адказнага рэдактара «Беларускай газэты» выступіў у гэтым жа нумары з падрабязным артыкулам Уладзіслаў Казлоўскі, выкарыстаўшы для яго назву «Прыязнае сэрца перастала біцца». Спаўна валодаючы зайздросным дарам публіцыста, ён зрабіў з Кубэ ледзь не святога чалавека для беларускага народа. Гаўляйтару пастаўлена ў вялікую заслугу, што яму «імкненні беларускага народу, яго гісторыя... былі бадай таксама блізкія, як і кожнаму беларусу. За свае два гады працы ў Мінску ён грунтоўна азнаёміўся з гэтай гісторыяй, з беларускімі звычаямі, пазнаў беларусаў і сваёй паэтычнай душой палюбіў беларусаў (тут варта было б аўтару быць намнога больш сціплым у адзнацы. — **Л. Л.**), нярэаз выказваючы пра яго як пра расава чысты і здаровы славянскі народ...»

Казлоўскі не быў бы сабой, не выкарыстаўшы забойства Кубэ для распальвання варожасці: «Будучы найвышэйшым прадстаўніком цывільнае нямецкае ўлады на Беларусі, ён надаваў палітычны кірунак беларускаму народу ў духу ягоных нацыянальных імкненняў. Ён нярэаз у сваіх афіцыйных прамовах падчыркваў, што Мінск ніколі не будзе плацдармам Масквы, усёроўна, белай ці чырвонай (асаблівых жа гарантый сцвярджаць такое не меласа з улікам рэальнага становішча на савецка-нямецкім фронце. — **Л. Л.**), а таксама й Польшча ніколі не будзе мець уплываў на Беларусі. Мінск ёсць і будзе цэнтрам беларускага нацыянальнага жыцця...». На вялікі жаль, Мінск і сёння з-за татальнай зрусіфікаванасці не з'яўляецца цэнтрам беларускага нацыянальнага жыцця.

Цывільны перыядычны друк і ў наступныя дні працягваў паведамляць пра развітанне з гаўляйтэрам, пра тое, як беларусы ставяцца да яго забойства. Ніхто столькі слёз не ліў, як кіраўнік Саюза Беларускай Моладзі Ганько, абавязаны нябожчыку сваёй пасадай. Узгадваючы праведзеную ў Мінску 19–21 верасня 1943 года нараду кіраўнікоў і кіраўнічак СБМ (прысутнічала 40 асобаў), ён цытуе словы Кубэ з выступу на ёй: «Мае дарагія беларускія сябры! Вы з'яўляецеся першым пакаленьнем свайго народу, якое паклікана стварыць новае, рэвалюцыйнае. Нямецкі меч даў вам магчымасць вызваліць беларускі народ із кайданоў векавога чужацкага панавання (не памыліўся ў ацэнцы рэальнага жыцця беларусаў у складзе Рэчы Паспалітай, Расійскай імперыі і ў пэўнай ступені ленінска-сталінскага СССР. — **Л. Л.**) і выйсці з цемры літаратурнага заняпаду» (цытуецца па «Беларускай газэце» ад 29 верасня 1943 года). О, як далёка да ўсяго гэтага было! А Ганько, відаць, не заўважаў ці не хацеў заўважыць той беспрасветнай цемры.

Не магла з прычыны гібелі Кубэ прамаўчаць і кіраўнічка юначак СБМ Надзея Абрамава. Мо ніхто больш за яе не праліў столькі горкіх слёз, не сказаў столькі цёплых слоў у час развітання беларускай моладзі з Кубэ?!

Увесь свой, не сумняваюся, шчыры боль яна выказала ў змешчаным 29 верасня 1943 года ў «Беларускай газэце» артыкуле «Кім быў для беларускай моладзі Вільгельм Кубэ». Яму прыпісвалася такое, у што ніяк не можа паверыць чалавек цвярозага розуму. Да прыкладу: «Уся праца яго на Беларусі — змаганне за тое, каб край нарэшце здолеў авалодаць эўрапэйскай культурай, каб нарэшце аднавіў сваю старадаўнюю лучнасць із Захадам і раўнапраўным увайшоў у сям'ю краёў Новае Эўропы». Абрамава ўжывае такія азначэнні: «Гаўляйтэр Кубэ быў запраўды шчырым прыяцелем беларускага народу...», што страта Кубэ «вялікі жаль для кажнага, чыё сэрца б'ецца для красавання Бацькаўшчыны». Ці ж мала такой моладзі было ў партызанскай зоне, як аўтар гэтых радкоў? Аднак для іх Кубэ не быў такім.

Найменш за ўсё пярэчанняў, сумненняў у праўдзівасці характарыстыкі Кубэ Абрамавай можна выставіць да такіх слоў з яе артыкула: «Сам паэта, драматург і эстэт, знаўца мастацтва — ён быў натхняльнікам усіх здольных сілаў для працы на карысць Бацькаўшчыны. Ён стаяў на чале арганізацыі мастацкіх выставак, ён вітаў сваім наведваннем Беларускія тэатральныя прэм'еры (што, дарэчы, не з'яўлялася і не з'яўляецца характэрным для многіх палітыкаў савецкай і прэзідэнцкай Беларусі — **Л.Л.**), ён дбаў аб адшукоўванні ўсіх каштоўнасцяў народнай культуры» («Беларуская газэта». 29 верасня 1943). За такія словы нельга крытыкаваць Абрамаву, бо Кубэ, як асобу цесна інтэграваную ў нямецкую культуру, проста не магла не цікавіць і беларуская. Такое ўласціва многім палітыкам, якія вызначаюцца высокім узроўнем культуры.

Не спыняючыся пісаць і гаварыць пра Кубэ, вельмі любілі ўзгадваць яго словы з апошняга публічнага выступу падчас сустрэчы з беларускай моладдзю: «Нямеччына Адольфа Гітлера хоча волі для народаў Эўропы. Беларускі народ павінен таксама, паводле волі Правадыра, атрымаць собскае вольнае жыццё» (нічога не скажаш: умеў тлуміць галовы недасведчанай моладзі. — **Л. Л.**). Не жадаючы, каб па самых розных прычынах моладзь пакідала свой родны край, ён звяртаўся да яе з такімі, лічу слушнымі і сёння, словамі: «Эмігранты ніколі не могуць вярнуць шчасця і волі свайму народу. Гэта ўдаецца толькі таму, хто гатовы да працы, змагання і ахвяраў». Асабіста я не аспрэчваў бы гэтых слоў, бо і сёння мы бачым, якую вялізную шкоду нясе нам нястрымная эміграцыя. Гарачымі прыхільнікамі яе з'яўляюцца і тыя, хто б'е сабе кулакамі ў грудзі, заяўляючы, што ён вялікі нацыянальны патрыёт, бясконца любіць зямлю сваіх продкаў. Па-сапраўднаму любячы Радзіму, ніколі не пакінеш яе, нават у самыя страшныя галодныя гады, а тым болей гады, калі па віне ўладаў тут нішчыцца ўсё нацыянальнае, замест якога ўкараняюцца і буяюць чужыя культура і мова, якіх дзяржаўныя чыноўнікі ўпарта агітуюць называць роднымі.

Не сумняваюся, найбольш жа праўды, якая нічога не дае беларускаму народу, а то і прыносіць карысць толькі акупантам, утрымліваецца ў той прамове Кубэ: «Сёння мы заклікаем вас, беларускую моладзь, не да гульняў, танцаў, а да змагання на баку нямецкага жаўнера і вялікага нямецкага народу, які нясе галоўны цяжар гэтае вайны». І як шкада, што хтосьці

**Здзейсненае забойства Кубэ не пайшло на карысць беларускай справе: на замену яго прыйшоў больш агрэсіўных поглядаў нацысцкі палітык, у многім адрозны ад свайго папярэдніка эсэсавец Курт фон Готберг. Гэта добра разумелі і многія дзеячы беларускага нацыянальнага руху**

Працяг на стар. 12 »

# Хто замовіў Вільгельма Кубэ?

« Заканчэнне. Пачатак на на стар. 11


Група нямецкіх чыноўнікаў і афіцэраў. У цэнтры Вільгельм Кубэ Фота jivebelarus.net

прасякнуўся зместам такіх слоў і ў адпаведнасці з імі будаваў сваё жыццё!

Здзейсненае забойства Кубэ не пайшло на карысць беларускай справе: на замену яму прыйшоў непараўнальна больш агрэсіўных поглядаў нацысцкі палітык, у многім адрозны ад свайго папярэдніка эсэсавец Курт фон Готберг. Гэта добра разумелі і многія дзеячы беларускага нацыянальнага руху. Мо таму так стараліся, каб Кубэ не забываўся ў іх асяроддзі. Клапацілася пра гэта і рэдакцыя «Беларускай газэты». У сваім чарговым нумары за 13 кастрычніка 1943 года, больш як за дваццаць дзён пасля здзейсненага забойства кіраўніка ГАБ, яна змясціла 4 фотаздымкі з апошняй паездкі Кубэ ў Слонім.

Здымкі падаюць яго даволі прыстойна: вітаецца за руку з павятовым старшынёй, сябрам Рады Даверу Цітовічам, наведвае Цэнтр Асяродку Саюза Беларускай Моладзі ў Альбэрціне (з падачай рукі кожнаму з прысутных сяброў СБМ), уручэнне Кубэ вялікага букета красак праваднічкай ад СБМ, сардэчная размова гаўляйтэра з юнакамі СБМ, у час якой яго рука ляжыць на плячуку аднаго з сяброў гэтай арганізацыі. На ўсіх чатырох здымках на тварах людзей пануе ўсмешка. Толькі пазітыўнае ўражанне маглі выклікаць у чытачоў тыя змешчаныя ў газеце фотаздымкі Кубэ.

Гібель Кубэ не была шараговай для Нямеччыны з'явай. І, хутчэй за ўсё, не таму, што ён зрабіў штосьці вартае ў яе інтарэсах, будучы за кіраўніка Генеральнай акругі Беларусь. У яго былі немалыя заслугі і міжваеннага часу, калі займаў высокія пасады ў структурах Нацыянал-сацыялістычнай рабочай партыі Германіі, знаходзіўся ў сяброўскіх кантактах з самім Гітлерам, што, аднак, не выключала і ўзнікнення паміж імі канфліктаў часовага характару. Бо каб яны не былі такімі, Гітлер не прызначыў бы 17 ліпеня 1941 года Кубэ на пасаду Генеральнага Камісара Генеральнай акругі Беларусь. Па волі ж фюрэра яго ўрачыста пахавалі за дзяржаўны кошт у Берліне на могільніку Лянквіц.

«27 верасня 1943 года а 12-й гадзіне ў Мазаікавай залі новае дзяржаўнае канцэлярыі адбыўся дзяржаўны акт успамінаў гаўляйтэра. У залі было ўрачыста цікава, спераду — аздобленае краскамі і чорнай крэпай узвышша, на ім — дамавіна, пакрытая вялікім дзяржаўным сцягам, спераду — шапка нябожчыка. Абапал дамавіны — ганаровая варта, ззаду — лес сцягоў Нямеччыны і нацыянал-сацыялістычнага руху, — пісала «Беларуская газэта» 9 кастрычніка 1943 года. — Сярод высокіх прадстаўнікоў ураду знаходзіўся Гебельс — правая рука фюрэра. Сам Гітлер адсутнічаў, але перадаў вялікі вянок. Калі ж у залю ўваходзіла старая маці нябожчыка ў суправаджэнні дзяржаўнага міністра Розэнберга і радні гаўляйтэра, усе госці ўсталі».

Напэўна, не думалі тыя, хто ў верасні 1939 года развязаў Другую Сусветную вайну, што і ім яна прынясе вялікае гора, запатрабуе шмат слёз, разлук бацькоў з загінулымі сынамі.

З улікам выкладзенага вышэй цяжка паверыць, што да забойства Кубэ, як сцвярджае шэраг даследчыкаў, маглі прыкласці рукі і самі немцы, прычым нават за яго памяркоўную нацыянальную палітыку. Апошняя ніколькі не пагражала Германіі. А вось Масква з яе даваеннай палітыкай развіцця і збліжэння савецкіх нацый і народнасцяў, у ходзе правядзення якой авангардная роля адводзілася рускаму фактару, магла быць незадаволенай беларусізацыяй на тэрыторыі ГАБ. Неабходна яшчэ ўлічваць, што тэрарыстычны акт супраць Кубэ быў учынены за адзін дзень да пачатку вызвалення ўсходніх раёнаў БССР ад акупантаў. У гэтай сітуацыі Чырвонай Арміі надзвычай важнай была актыўная падтрымка яе цывільным насельніцтвам. Найбольш рэальнай яна магла стаць, калі апошняе зведае на сабе нечуванай моцы рэпрэсіі. Забойства Кубэ, напэўна ж, магло прычыніцца да іх, таму ніяк нельга катэгарычна выключыць здзяйсненне такога тэрарыстычнага акту менавіта савецкімі спецслужбамі ў абыход беларускіх падпольшчыкаў, партызанаў, хаця гэта было б вялікім гонарам не толькі для іх, а і ўсяго народа, які змог адпомсціць свайму ворагу.

# БагатаДата

**У гэтыя дні шмат гадоў таму адбываліся падзеі, якія значна паўплывалі на лёс Беларусі. Напрыклад, БССР стала заснавальніцай ААН, а таксама нарадзіўся аўтар Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР. Што яшчэ адбылося? Чытайце ў нашым традыцыйным аглядзе.**

## 20 чэрвеня

**Сусветны дзень уцекачоў.**

**1925.** У вёсцы Белевічы Смаргонскага раёна нарадзіўся грамадскі дзеяч беларускай эміграцыі Янка Сурвіла. Муж старшыні Рады БНР Івонкі Шыманец (Сурвілы). Стварыў галерэю фотапартрэтаў літаратараў-эмігрантаў — сярод іх і Наталлі Арсенневай.

## 21 чэрвеня

**Дзень медыцынскіх работнікаў.**

**1820.** На Случчыне нарадзіўся беларуска-польскі мастак і літаратар Браніслаў Залескі. Падтрымліваў паўстанне 1863–1864 гадоў — у прыватнасці, дапамагаў закупляць зброю. Стварыў некалькі малюнкаў пра паўстанне. Сябраваў з украінскім паэтам Тарасам Шаўчэнкам. Залескі разам з паэтам ёсць на шаўчэнкавай карціне «Шаўчэнка сярод таварышаў».

**1920.** На хутары Паддубнае Лунінецкага раёна нарадзіўся ваенна-палітычны дзеяч Усевалад Родзька. У Другую сусветную вайну супрацоўнічаў з абверам, быў бурмістрам Віцебска. Старшыня Беларускай незалежніцкай партыі. Распрацоўваў план антынямецкага паўстання ў Мінску. Пасля вайны арыштаваны савецкімі спецслужбамі і прыгавораны да расстрэлу, які быў заменены зняволеннем у Сібіры. Далейшы лёс невядомы.

**1930.** Медыцынскі факультэт Белдзяржуніверсітэта рэарганізаваны ў Мінскі медінстытут (цяпер Беларускі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт). У гэты ж дзень у Гомелі паўстаў Беларускі лесатэхнічны інстытут, які з 1945 года працаваў у Мінску (цяпер гэта Беларускі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт).

**1935.** Ва ўкраінскім горадзе Крывы Рог нарадзілася беларуская эстрадная спявачка Нэлі (сапраўднае імя — Нінэль) Багуслаўская. Працавала салісткай Беларускай дзяржфілармоніі. У 1966 годзе перамагла на Усесаюзным конкурсе савецкай песні ў Маскве. Вядомыя песні ў яе выкананні: «Калі ласка, будзьце побач» мужа Ізмаіла Капланава, «Спадчына» Ігара Лучанка, «Гісторыя аднаго кахання» Леаніда Захлеўнага, «Летні снег» Давіда Тухманава, «Белая Русь» Юрыя Семянякі, «Ой, цвіце каліна» Ісаака Дунаеўскага.

**1955.** У Крывым Рогу нарадзіўся гісторык і палітык Валянцін Голубеў. Дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання ад Апазіцыі БНФ, аўтар Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР.

## 22 чэрвеня

**Дзень усенароднай памяці ахвяр Вялікай Айчыннай вайны.**

## 23 чэрвеня

**Міжнародныя Алімпійскі дзень і дзень удоваў.**

**1705.** Расійскі цар Пётр І са світай увайшоў у Віцебск, дзе загадаў знішчыць абразы з выявай Ясафата Кунцэвіча і агучыў план па знішчэнні яго парэшткаў, што захоўваліся ў Полацку.

## 24 чэрвеня

**1900.** У маёнтку Лапацічы (цяпер вёска Борка-Бялевічы Капыльскага раёна Мінскай вобласці) нарадзіўся пісьменнік Кузьма Чорны (сапраўдныя імя і прозвішча Мікалай Раманоўскі). У 1926–1931 гадах быў старшынёй літаб'яднання «Узвышша». У 1938 годзе арыштаваны: сядзеў у



Мінску ў турме, дзе яго рэгулярна катавалі. Выпушчаны праз заступніцтва першага сакратара кампартыі БССР Панамарэнкі. Памёр ад інсульту ў 1944 годзе. Творы: «Трэцяе пакаленне», «Млечны шлях», «Пошукі будучыні», «Бацькаўшчына», «Сястра», «Лявон Бушмар».

## 25 чэрвеня

**1840.** Расійскі імператар Мікалай І выдаў указ аб увядзенні ў Беларусі замест трэцяга Статуту ВКЛ расійскага заканадаўства.

**1905.** У вёсцы Пуцілкавічы Ушацкага раёна на Віцебшчыне нарадзіўся пісьменнік Пятрусь Броўка. Аўтар мноства кніг паэзіі, шэрагу апавесцяў. Напісаў лібрэта опер «Міхась Падгорны» і «Алеся». Яго верш «Пахне чабор» — школьная класіка.

**1910.** У парыжскай «Гранд-апера» адбылася прэм'ера балета Ігара Стравінскага «Жар-птушка», пасля якой ён займеў сусветную славу. Кампазітар паходзіў з беларускай шляхты.

## 26 чэрвеня

**Міжнародны дзень барацьбы з наркатычнымі сродкамі і іх незаконным абарачэннем, а таксама Міжнародны дзень у падтрымку ахвяраў катаванняў.**

**1945.** У амерыканскім Сан-Францыска пяць дзясяткаў краін падпісалі Статут Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. У тым ліку і Беларусь (на той час БССР) як дзяржава-заснавальніца ААН.

**1970.** У Смалявічах на Міншчыне нарадзілася гімнастка Марына Лобач. Чэмпіёнка свету па мастацкай гімнастыцы (абруч) і Алімпійскіх гульняў–1988 у Сеуле (шматбор'е).

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17 347 52 81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1020

Падпісана да друку 19.06.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.